

# Гравюры Францыска Скарыны

# Гравюры
# ФРАНЦИСКА СКОРИНЫ

# FRANCISK SCORINA'S
# Engravings

# Les gravures de
# FRANTSISK SKORINA

# Holzschnitte von
# FRANZYSK SKORINA

# Grabados de
# FRANCISKO SKORINA

# Гравюры
# Францыска
# Скарыны



МІНСК «БЕЛАРУСЬ» 1990

Аўтар тэксту і складальнік Л. Ц. БАРАЗНА

Навуковыя рэдактары:
доктар філал. навук А. І. ЖУРАЎСКІ,
канд. мастацтвазнаўства П. В. МАСЛЕНІКАЎ,
доктар гіст. навук Г. В. ШТЫХАЎ

Прадмова В. Ф. ШМАТАВА

Выданне 2-е

Г $\frac{4903040000-131}{М 301(03)-90}$ 131—90

ISBN 5-338-00483-6

# ПРАДМОВА

У 1972 г. у культурным жыцці рэспублікі, развіцці нашага мастацтвазнаўства адбылася прыметная падзея: у кнігарнях з'явіўся альбом «Гравюры Францыска Скарыны». Выпушчаны тыражом 5000 экземпляраў, ён досыць хутка разышоўся, стаў бібліяграфічнай рэдкасцю. Дзякуючы выданню ў навуковы ўжытак быў уведзены унікальны выяўленчы матэрыял, пераацаніць які немагчыма: мастацтвазнаўцы, мастакі, усе, хто цікавіцца роднай культурай, атрымалі магчымасць пазнаёміцца з загадкавай выяўленчай спадчынай вялікага беларускага першадрукара-асветніка і вучонага-гуманіста Францыска Скарыны, з ілюстрацыямі і арнаментыкай ягонай Бібліі (1517—1519), «Малой падарожнай кніжкі» (1522) і Апостала (1525). Альбом не маглі пакінуць без увагі гісторыкі мастацтва, у прыватнасці ксілаграфіі, даследчыкі старажытнага дойлідства, касцюма, нават будаўнічай тэхнікі і вайннай справы. І, вядома, гэтае выданне даўно чакалі ўсе тыя, каму дорага імя славутага ўраджэнца Полацка, хто цікавіцца кнігазнаўствам, гісторыяй друкарства, паліграфіяй, тыпаграфікай.

Аўтар-складальнік альбома — беларускі мастак Лявон Цімафеевіч Баразна (нар. у 1929 г. у в. Новае Сяло Талачынскага раёна, што на Віцебшчыне,— памёр у 1972 г. у Мінску) — не ўбачыў плёну сваёй карпатлівай збіральніцкай, даследчай працы — ён трагічна загінуў усяго за некалькі тыдняў да выхаду з друку альбома.

Баразна быў вядомы таленавіты жывапісец і графік, майстар дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Скончыўшы Мінскае мастацкае вучылішча (1955), ён, падобна Язэпу Драздовічу, з эцюднікам і альбомам у руках падарожнічае па Віцебшчыне і Гродзеншчыне, Міншчыне, Мазыршчыне і Брэстчыне. Яго цікавяць усе праявы матэрыяльнай і духоўнай культуры народа, яе забытыя, закінутыя скарбы. Ён рупліва замалёўвае ў сваім альбоме прадметы побыту беларусаў, прылады працы, народны касцюм. Затым вучоба ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце (скончыў у 1968 г.), і зноў збіральніцкая творчая праца. Вынікам з'явіліся альбомы замалёвак «Беларуская народная вопратка» (1958), «Беларускі народны арнамент Палесся» (1957), «Арнамент Гродзеншчыны» (1960), якія, на жаль, не былі надрукаваны. Асабліва плённай была праца Баразны ў галіне беларускага сцэнічнага касцюма (паводле ягоных эскізаў ствараліся адметныя касцюмы для танцавальных калектываў мастацкай самадзейнасці Ліды, Слоніма, Пастаў і інш.).

Варта адзначыць і прынцыповую паслядоўную грамадзянскасць мастака, які быў сапраўдным адраджэнцам і рашуча, часам востра, адстойваў нашу нацыянальную спадчыну, сцвярджаў яе самабытнасць, права на вольнае развіццё.

Відаць, менавіта ўсведамленне сваёй адказнасці за лёс роднай культуры, імкненне служыць ёй да канца абумовілі звяртанне Баразны і да помнікаў старажытнага мастацтва Беларусі, у прыватнасці гравюр Скарыны. Вынікам і з'явіўся згаданы вышэй альбом «Гравюры Францыска Скарыны». Каб зразумець навізну і каштоўнасць працы Баразны, варта сказаць пра зробленае ў гэтай галіне яго папярэднікамі. Але спачатку колькі слоў пра самі гравюры Скарыны, пра мастацтва кніг беларускага асветніка.

Славутае вынаходніцтва Гутэнберга славянскія народы засвоілі аднымі з першых. Прыярытэт належыць Чэхіі («Траянская хроніка», каля 1470 г.).

Аднак, як і глаголіцкія выданні (напрыклад, «Служэбнік», Венецыя ці Харвацыя, 1483 г.), чэшскія інкунабулы непасрэдных адносін да нашай тэмы не маюць. Першыя кнігі кірыліцкага шрыфту былі выдадзены ў 90-я гг. XV ст. у Кракаве, дзе Швайпольт Фіёль выпусціў «Актоіх», «Часаслоў», «Трыёдзь посную» і «Трыёдзь каляровую». Следам за Фіёлем у 1494 г. кірыліцкае друкарства ўзнікла ў паўднёваславянскіх землях, у прыватнасці ў сталіцы Чарнагорыі — Цэтыне, дзе іераманах Макарый надрукаваў «Актоіх першагалоснік» (1494), «Актоіх пяцігалоснік» (каля 1494), «Псалтыр» (1494) і «Малітоўнік» (1495). Неўзабаве кірыліцкае друкарства заснавана і ў Валахіі (на тэрыторыі сучаснай Румыніі), дзе Макарый (ранейшы ці другі — невядома) выпусціў «Служэбнік» (1508), «Асмагалоснік» (1510), «Чатырох' евангелле» (1512).

На раннім этапе развіцця друкарства як у Гутэнберга, так і ў ягоных паслядоўнікаў было імкненне сродкамі друку імітаваць вонкавы выгляд рукапісаў. У гэтым пераконваюць выданні Фіёля, якія дэманструюць першы «рукапісны этап» мастацтва кірыліцкай кнігі. У кнігах, выпушчаных Макарыем у Цэтыне, выкарыстаны ўжо і асобныя друкарскія элементы (узыходзячыя да венецыянскіх выданняў Эрхарда Ратдольта ініцыялы, застаўка з гербам Црноевіча і інш.). Аднак у наступных кірыліцкіх кнігах, выпушчаных у 1512 г. Макарыем у Валахіі, тэндэнцыя да сцвярджэння новай друкарскай эстэтыкі не замацавалася: гэтыя кнігі па свайму мастацкаму афармленню як бы вяртаюцца да больш ранняга «рукапіснага этапу».

Праз 9 гадоў пасля пачатку друкарства ў Валахіі да кнігавыдавецкай дзейнасці ў чэшскай Празе прыступіў Скарына, выданні якога па свайму мастацкаму афармленню і майстэрству ілюстрацый прыкметна пераўзыходзяць не толькі папярэднія славянскія кнігі, але і многія заходнееўрапейскія інкунабулы і палеатыпы. У гэтых выданнях беларускі асветнік у галіне спецыфічнага мастацтва кнігі выступаў сапраўды наватарам, па-новаму вырашыўшы праблемы ілюстравання і дэкарыроўкі, кніжнага дызайну і тыпаграфікі.

Своеасаблівасць і адметнасць афармлення і мастацка-тэхнічных наваўвядзенняў Скарынавай Бібліі, «Малой падарожнай кніжкі» і Апостала звязаны з асаблівасцямі выдавецкай праграмы Скарыны — «першага славянскага дзеяча кнігі, які свядома аднёсся да кнігі як да сродку асветы, ідэйнага ўзбагачэння чалавека...» (А. А. Сідараў). Асветніцкі характар кнігавыдавецкай дзейнасці слыннага ўраджэнца Полацка прыкметна адбіўся на мастацтве ягоных кніг, патрабаваў іх дэмакратызацыі: змяншэння фармата (пражскія кнігі, што выходзілі асобнымі выданнямі, надрукаваны ў «чацвёрку», віленскія — 8-ю долю аркуша), дасягнення лепшай чытальнасці (а значыць, рэформы шрыфту), новай прасторава-дэкаратыўнай арганізацыі старонак, звароту да тытульных лістоў і ілюстрацый з мэтай раскрыцця ў мастацкіх вобразах зместу кнігі. Паставіўшы задачу даць суайчыннікам кнігу «для памнажэння мудрасці і навукі», «абы научившися мудрости добре жили на свете», Скарына першы ўказаў на функцыянальную ролю, значэнне для чытача не толькі ілюстрацый, але таксама мастацка-дэкаратыўных элементаў. У параўнанні з Фіёлем і Макарыем ён у мастацкім афармленні прыкметна адышоў ад традыцый царкоўнаславянскіх рукапісаў, усвядоміў значэнне друкарскай эстэтыкі, узмацніў свецкі гуманістычны пачатак у кніжным мастацтве.

Скарынавы выданні азораны сапраўды рэнесансным светапоглядам, на іх ляжыць адбітак яркай і незвычайнай асобы асветніка. На тытульным лісце ягонай Бібліі кінаварам горда

напісана: «Бівлия руска выложена докторомъ Францискомъ Скориною из славнаго града Полоцька, богу ко чти и людемъ посполитымъ к доброму научению». Подобныя фармуліроўкі бачым і ў іншых выпушчаных ім біблейскіх кнігах. У практыцы тагачаснага друкарства гэта ледзь не адзіны выпадак, калі побач з загалоўкам Свяшчэннага пісання ўказаны выдавец — прытым не духоўная, а свецкая асоба — і яго вучоная ступень.

Амаль неверагодным уяўляецца той факт, што ў сакральнай кнізе Скарына змясціў не адлюстраванні святога Ераніма (перакладчык Вульгата ў V ст.) і не евангелістаў, «святых пісьменнікаў», а ўласны гравюрны партрэт — «адзін з самых ранніх, калі не першы з партрэтаў друкароў наогул» (У. С. Люблінскі). У вырашэнні шэрагу складаных і важных праблем кніжнага мастацтва Скарына паўстае сапраўдным наватарам. Выпушчанае ім Свяшчэннае пісанне — першая кірыліцкая Біблія ў сусветным друкарстве. Яе ілюстрацыйны цыкл да Ветхага запавету, які вызначаецца шырокім тэматычным дыяпазонам,— ледзь не самы ранні ва Усходняй Еўропе. У дрэварытах, прасякнутых духам сапраўднага дэмакратызму, імкненнем быць зразумелым шырокім чытачам, у той жа час прыкметны адыход ад празмернай апавядальнасці гравюр ранніх друкаваных заходнееўрапейскіх Біблій. У іх намецілася тэндэнцыя да вызвалення зрокавага вобраза ад рабалепнага пакланення перад «літарай» біблейскага тэксту і ўзмацненню мастацкага пачатку, выражэнню сродкамі гравюры складанага зместу кнігі. У сцвярджэнні магчымасцей «абразной» ксілаграфіі гэтыя ілюстрацыі ўзыходзяць да тых заваёў заходнееўрапейскай гравюры, якія звязаны з творчасцю М. Вольгемута, А. Дзюрэра і яго школы. Менавіта іх творы натхнялі майстроў Скарыны, а ў асобных выпадках выкарыстоўваліся імі ў якасці прататыпа. Ва ўсходнеславянскім мастацтве (не толькі кніжным) цяжка паказаць больш яркія прыклады такога плённага, творчага пераасэнсавання дасягненняў твораў заходнееўрапейскіх майстроў і падначалення іх мэтам і задачам нацыянальнага кнігадрукавання.

У выданнях Скарыны, па сутнасці, упершыню ў кірыліцкім друкарстве прадстаўлены ўсе вядомыя да таго часу элементы мастацкага афармлення кнігі. Скарына першы ўвёў у кнігу тытульны ліст, фаліяцыю, калонтытулы, сцішыцы, складаныя шматфігурныя ілюстрацыі; арыгінальна вырашаны ім складаныя праблемы сінтэзу, непарыўнага адзінства ўсіх графічных кампанентаў кніжнага ансамбля, дызайну. Беларускага асветніка можна па праву лічыць заснавальнікам тыпаграфікі ў кірыліцкай кнізе: па ўменню мастака афармляць тэкст сродкамі набору і вёрсткі ён мала мае сабе роўных. Акрамя таго, гравюры і арнаментыка кніг Скарыны даюць яркія і наглядныя (прытым найбольш раннія) прыклады кантактаў усходнеславянскай друкаванай кнігі з мастацтвам позняй готыкі і Рэнесансу.

Без перабольшання можна сказаць, што Скарына не толькі заснаваў мастацтва ўсходнеславянскай кірыліцкай друкаванай кнігі, але і ўзняў яго на ўзровень лепшых дасягненняў свайго часу. Невыпадкова У. В. Стасаў называў яго выданні «славянскімі Эльзевірамі». Іншыя даследчыкі параўноўвалі іх са знакамітымі «Альдзінамі» (кнігамі, якія ў канцы XV — пачатку XVI ст. у Венецыі выпускаў славуты Альд Мануцый).

У кніжным мастацтве Скарыны асаблівае месца займае першы ва Усходняй Еўропе біблейскі цыкл ілюстрацый — 51 адбітак (з 47 дошак). Гэта ў большасці выпадкаў шматфігурныя кампазіцыі на тэмы Старога запавету. У кірыліцкім кнігадрукаванні гэта першыя ілюстрацыі, якія даюць

выяўленчую інтэрпрэтацыю Свяшчэннага пісання, бо «ні Швайпольт Фіёль у Кракаве, ні друкары Балкан у 90-х гадах XV стагоддзя не прыцягвалі гравюру для сапраўднай характарыстыкі кнігі, для арганізацыі ў мастацкіх вобразах яе зместу»[1]. Такую задачу ва ўсёй яе складанасці ўпершыню выразіў Скарына, які па-сапраўднаму ацаніў сілу і значэнне мастацкага вобраза ў кнізе, ролю ілюстрацыі як сродка дапамагчы чытачу глыбей і паўней усвядоміць літаратурную першакрыніцу, ясней уявіць сабе апісваемых герояў.

З мініяцюрай беларускіх (і ў цэлым усходнеславянскіх) рукапісаў біблейскі цыкл ілюстрацый Скарыны па стылю і тэматыцы не мае нічога агульнага, усе гравюры выкананы, бясспрэчна, у традыцыях заходнееўрапейскага мастацтва.

Заслуга Скарыны не толькі ў тым, што ён глыбока ўсвядоміў значэнне друкарскай эстэтыкі, ролю ілюстрацый, аздоб і кінавары як сродкаў арганізацыі ў мастацкіх вобразах зместу кнігі — ён, па сутнасці, стаў першым усходнеславянскім тэарэтыкам кніжнага мастацтва. Вялікую цікавасць маюць яго зусім нявывучаныя выказванні аб ілюстрацыях, застаўках, значэнні колеру. Скарына рашуча заявіў, што ўсе кампаненты кніжнага мастацтва прызначаны не для знешняга ўпрыгожвання, але для таго, «абы братия мая Русь, люди посполитые, чтучи могли лепей разумети». У прадмове да кнігі «Песня песням» Скарына вобразна параўноўвае кінавар з маладымі на вяселлі, гэта значыць, падкрэслівае змястоўную і эмацыянальную ролю чырвонага колеру. У «Малой падарожнай кніжцы» асветнік падкрэслівае практычнае, «раздзяляльнае» значэнне заставак, якія, на яго думку, арганізуюць чытанне. Несумненна, мае рацыю А. А. Сідараў, які адзначыў, што «Скарына — першы асветнік, які ўказаў на народнае прызначэнне яго выданняў, а ў іх — на грамадскі сэнс, на значэнне для чытача, для зручнасці ўспрымання яго мастацка-дэкаратыўных элементаў»[2].

Высокі мастацкі ўзровень Скарынавых кніг у Расіі прыцягнуў даследчыкаў ужо ў XVIII ст., першыя іх апісанні зроблены І. Р. Бакмейсцерам і І. Г. Штрытэрам. Яны ўпершыню зафіксавалі і асобныя ілюстрацыі Бібліі[3].

У XIX ст. апісанне выданняў Скарыны прадоўжана В. С. Сопікавым, П. М. Строевым, В. М. Ундольскім, І. П. Каратаевым, А. І. Мілавідавым, якія таксама ўпамінаюць «рэзаныя на дрэве карцінкі». У 1830 г. І. М. Снегіроў даў першае апісанне партрэта Скарыны з кнігі «Ісус Сірахаў» і праілюстраваў яго копіяй А. А. Фларова (пра яе далей). Копіі асобных гравюр надрукавалі П. М. Строеў і І. П. Сахараў. Ілюстрацыі ў іх публікацыях выкананы ў тэхніцы літаграфіі і даюць вельмі прыблізнае ўяўленне пра ксілаграфічныя (абразная гравюра) арыгіналы Скарыны[4].

Усё самае каштоўнае, што было сказана аб графіцы Скарыны дарэвалюцыйнымі аўтарамі, належыць, бясспрэчна, У. В. Стасаву. Рэцэнзуючы рукапісную працу Равінскага «Русские граверы и их произведения с 1564 г. до основания Академии художеств», ён спыніўся на выданнях Скарыны з гравюрамі, «якія маюць важную ролю ў шэрагу славянскіх твораў ксілаграфічнага мастацтва». Лаканічныя заўвагі Стасава аб Скарынавых гравюрах нярэдка здзіўляюць сваёй пранікнёнасцю — ва ўсякім выпадку ніхто з дарэвалюцыйных даследчыкаў не змог так глыбока ўбачыць іх своеасаблівасць, ацаніць мастацкія вартасці. Некаторыя яго назіранні і вывады маюць прынцыповае значэнне[5]. Яго рэцэнзіі-даследаванні аказалі істотны ўплыў на гравюразнаўчыя працы Д. А. Равінскага (пазней таксама на М. М. Шчакаціхіна), аднак Равінскі ўсё ж не

здолеў па-сапраўднаму ацаніць гравюры Скарыны (фактычна ён толькі паўтараў тое, што падказаў яму Стасаў).

У 1888 г. П. У. Уладзіміраў у вядомай манаграфіі «Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык» (СПБ, 1888) надрукаваў асобныя Скарынавы ілюстрацыі (партрэт Скарыны з кнігі «Ісус Сірахаў», «Юдзіф і Алаферн», «Эсфір перад царом»), а таксама дзве застаўкі і 22 ініцыялы Бібліі. Здымкі гравюр у ягоных кнігах упершыню рабіліся непасрэдна з арыгіналаў. Уладзіміраў даў і кароткае апісанне ілюстрацый Бібліі.

Аднак найбольшая заслуга ў вывучэнні мастацкай спадчыны Скарыны належыць аднаму з таленавітых і яркіх піянераў беларускага савецкага мастацтвазнаўства, яго адкрывальніку і руплівому даследчыку Мікалаю Мікалаевічу Шчакаціхіну. Дзве яго грунтоўныя публікацыі аб гравюрах Скарыны, па сутнасці, сталі першымі спецыяльнымі даследаваннямі графічнай спадчыны асветніка[6].

Усебаковы аналіз згаданых публікацый Шчакаціхіна можа стаць тэмай асобнай даследчай працы. Гэта лепшыя артыкулы мастацтвазнаўцы (асабліва другі — у зборніку «Чатырохсотлецце беларускага друку»), якія ўнеслі неацэнны ўклад у навуковую Скарыніяну. Шчакаціхін даў грунтоўнае апісанне пераважнай большасці гравюр Скарыны, зрабіў іх класіфікацыю, паказаў мастацкую адметнасць і сувязі з заходнееўрапейскай традыцыяй. Назваў шэраг аналогій, рэпрадукаваў ілюстрацыі, застаўкі, ініцыялы. Грунтоўныя працы Шчакаціхіна, якія з'яўляюцца ўзорам скрупулёзнага і аб'ектыўнага аналізу, не страцілі сваёй навуковай каштоўнасці і сёння. Аднак закладзены ім падмурак новага адгалінавання ў навуцы пра мастацтва — гравюразнаўства — у 30-я гг. не быў прадоўжаны: вялікі сын Бацькаўшчыны Францыск Скарына ў гэты час быў абвешчаны «езуітам», а даследчыкі ягонай творчасці (у тым ліку і Шчакаціхін, што трагічна загінуў у 1940 г. у ссылцы) — «нацдэмаўцамі», «ворагамі народа».

Толькі ў 1972 г., праз 46 гадоў пасля публікацый Шчакаціхіна, грамадскасць атрымала магчымасць зноў пазнаёміцца з гравюрамі Скарыны — падрыхтаваны Баразной альбом «Гравюры Францыска Скарыны» стаў першым асобным выданнем графічнага матэрыялу асветніка. Прычым найбольш поўным. Шчакаціхін рэпрадукаваў 28 фігурных ілюстрацый, тры тытульныя лісты, тры застаўкі і 22 ініцыялы. Баразна ж у сваім альбоме дае 47 ілюстрацый, 33 застаўкі і 108 ініцыялаў пражскіх выданняў.

Упершыню паказаў Баразна і 12 «прыкладных» гравюр з кніг «Царствы», «Выхад» і «Левіт» (№ 36—47). Акрамя таго, ён даў многія старонкі кніг з віньеткамі і застаўкамі, рэпрадукаваў узоры шрыфту, набору. Сама падача выяўленчага матэрыялу ў альбоме заслугоўвае ўвагі. Шчакаціхін фатаграфаваў гравюры без тэксту, фактычна «адрываў» выяву ад яго. Баразна паставіўся да выяўленчага матэрыялу больш беражліва. Улічваючы, што пераважная большасць гравюр Скарыны змешчаны на тытулах, ён падае іх разам з наборам (загалоўкамі кніг і г. д.). Да таго ж побач змяшчае павялічаныя фрагменты гравюр, што дае магчымасць больш уважліва вывучыць дэталі, тэхніку разьбы...

Прынцыпова новага ў альбоме няма. Баразна першы надрукаваў сапраўдны тытул Бібліі Скарыны (№ 48), які Шчакаціхін прадставіў літаграфскай копіяй XIX ст., першы надрукаваў партрэт Скарыны з кнігі «Царствы» (№ 34). Важна тое, што ён рэпрадукаваў дзве новыя гравюры з «Малой падарожнай кніжкі» — «Хрыстос у храме» (№ 29) і «Хрышчэнне ў Іардане» (№ 30). Да Баразны яны ні разу не друкаваліся. Тое ж самае даты-

чыцца прыкладных ілюстрацый з кніг «Царствы», «Левіт» і «Выхад» (№ 36—47). У лік яго адкрыццяў трэба аднесці і гравюру «Господь бог глаголет к Моисею...» (№ 22) з кнігі «Левіт». Гравюра «Тройца» з кнігі «Быццё» ў Баразны сфатаграфавана з арыгінала (№ 20), а ў Шчакаціхіна — з малюнка пяром.

Вышэйсказанае не азначае, што каштоўная праца Баразны пазбаўлена недахопаў. Напрыклад, у альбоме пад № 35 змешчаны не сапраўдны партрэт Скарыны, а згаданая копія, зробленая ў XIX ст. А. А. Фларовым у тэхніцы медзярыту. Яго манаграму «Гр. Ал. Ф.» можна прачытаць на рэпрадукцыі Баразны. Прычым у каментарыях да гравюр сказана, што гэты партрэт — з кнігі «Быццё». Тым часам ні ў адным з вядомых экземпляраў гэтай кнігі партрэта Скарыны не існуе. Сучасным даследчыкам вядомы толькі два адбіткі партрэта асветніка: у кнігах «Ісус Сірахаў» (1517, л. 82) і «Царствы» (1518, л. 242). Баразна называе іх «варыянтамі». Але яны адціснуты з адной дошкі, аб чым сведчыць поўная тоеснасць кампазіцыі, стылю і манеры выканання, прыёмаў разьбы, псіхалагічнага стану вобраза, а галоўнае — дата «1517» награвіравана на абодвух аркушах. Партрэт Скарыны ў альбоме названы Баразной «аўтапартрэтам», але ніякіх доказаў аб тым, што яго маляваў і гравіраваў сам Скарына, не прыводзіцца. Да таго ж партрэт унізе злева адзначаны манаграмай «МЗ» (або МТЗ), якая, паводле верагоднага меркавання Стасава, «яўна азначае гравёра».

Баразна даводзіць, што «Францыск Скарына быў адзіным аўтарам усіх гравюр і заставак, якія змешчаны ў яго кнігах» (с. 23). Тым часам дзве гравюры «Малой падарожнай кніжкі» («Хрыстос у Храме» і «Хрышчэнне ў Іардане») адціснуты з дошак нюрнбергскай «Сусветнай хронікі» (1493) Г. Шэдэля. Іх аўтарам хутчэй за ўсё з'яўляецца настаўнік Дзюрэра — Міхель Вольгемут.

Выяўленчая стылістыка і прыёмы разьбы астатніх ілюстрацый — розныя, а гэта пацвярджае меркаванне Стасава (яго падзяляў і Шчакаціхін), што гравюры роблены яўна рукамі некалькіх майстроў. Да таго ж у Еўропе ў XV — XVI стст. амаль заўсёды існаваў «падзел працы» на малявальшчыка, стваральніка кампазіцыі, вобразаў і гравёра-рэзчыка, які рэалізаваў задуму мастака ў матэрыяле.

Ініцыял «С» з таго ж віленскага выдання («Акафіст труне господняй», л. 1 адв.) адціснуты з клішэ нюрнбергскага друкара Петэра Вагнера (або Георга Штукса) і ўзыходзіць у прынцыпе да «Вялікага прапіснога алфавіту» нямецка-нідэрландскага гравёра Ізраеля ван Мекенема. Гэтыя факты дазваляюць удакладніць меркаванне Баразны пра аўтараў Скарынавых ілюстрацый.

Надзвычай складаная і дагэтуль не вырашаная праблема іх паходжання патрабуе спецыяльнага даследавання. Стасаў і Шчакаціхін схіляліся да думкі, што ў іх выкананні маглі прыняць удзел мастакі чэшскай гравёрнай школы (якой, дарэчы, у тыя часы яшчэ фактычна не існавала). Аднак факты сведчаць пра кантакты шэрагу гравюр Скарыны з нямецкай (нюрнбергскай) школай гравюры, што ў часы Скарыны ў Еўропе дамінавала. Асобныя ілюстрацыі Скарыны (№ 20, 25) узыходзяць да лістоў знакамітага «Апакаліпсіса» Дзюрэра, які ў 1498 г. у Нюрнбергу выпусціў А. Кобергер. Пра пэўны ўплыў на ілюстрацыі Скарыны нямецкай гравюры пісалі М. Вішнеўскі, П. У. Уладзіміраў, В. А. Някрасаў, Я. І. Кацпржак і іншыя аўтары. Аднак — гэта важна падкрэсліць — большасць ілюстрацый Скарыны вылучаюцца мастацкай самастойнасцю і не маюць адпаведных аналогій.

Гаворачы пра сур'ёзную падрыхтоўку Скарыны ў выяўленчым ма-

стацтве, Баразна слушна піша, што асветнік меў вучоную ступень «доктара мастацтваў» (с. 24). Але гэтая вучоная ступень у тыя часы з выяўленчым мастацтвам не мела нічога агульнага (яна абавязвала веданне граматыкі, рыторыкі, дыялектыкі, арыфметыкі, геаметрыі, музыкі і астраноміі).

Баразна даводзіць: калі б Скарына звярнуўся за дапамогай да разьбяроў-выканаўцаў, то абавязкова б адзначыў гэта, «як адзначаў усіх, хто ўдзельнічаў у стварэнні ягоных кніг». У якасці прыкладу ён называе Багдана Онкава (с. 23). На самай справе запіс «ся стало накладом Богдана Онькава...» у кнігах Скарыны не надрукаваны, а зроблены ад рукі. Нікога са сваіх памочнікаў (друкароў, мастакоў, рэзчыкаў) Скарына, на жаль, не назваў у шматлікіх прадмовах і калафонах сваіх кніг.

Гаворачы аб манаграме на партрэце Скарыны, Баразна лічыць, што літара «М» азначае «малюнак», а «З» — начальная літара слова «зделать» (у слоўніку Скарыны, дарэчы, такое слова не сустракаецца). Паколькі «МЗ» стаіць побач з подпісам «Доктор Франциско Скорина», усё разам трэба чытаць як «Малевание зделал доктор Франциско Скорина» або як «Малевания зиждитель доктор Франциско Скорина».

Тым часам манаграма «МЗ» на партрэце награвіравана асобна ад подпісу «Доктор Франциско Скорина». Кампазіцыйна яны не звязаны; да таго ж подпіс дадзены вяззю, а вензель гравёра — «звычайнымі» друкаванымі літарамі.

Я далёкі ад намеру адмаўляць удзел Скарыны ў справе аздаблення сваіх выданняў; наадварот, лічу гэта актуальнай задачай мастацтвазнаўства. Але для яе вырашэння патрэбны глыбокія даследаванні, новыя факты, аргументы. Пакуль што такіх аргументаў, фактаў, доказаў ніхто не прывёў. Думаю, бліжэй да ісціны Шчакаціхін, які лічыў, што Скарына хутчэй быў малявальшчыкам асобных гравюр, аўтарам кампазіцый, але не рамеснікам-рэзчыкам. Ніяк нельга адмаўляць і ролю асветніка як кансультанта, арганізатара ўсіх работ у сваёй (або нанятай) друкарні, сапраўднага натхніцеля мастакоў. Яму, безумоўна, належаць усе подпісы да ілюстрацый, малюнак шрыфту Бібліі (на Захадзе кірыліцкі шрыфт не мог быць зроблены без яго папярэдніх эскізаў, малюнкаў).

Нельга таксама прызнаць бясспрэчнай абраную Баразной класіфікацыю гравюр Скарыны. У яе аснову абраны не прыёмы (манера) гравіроўкі, а прынцып кампазіцыі. Зыходзячы з гэтага спрэчнага прынцыпу — кожны ж сапраўдны мастацкі твор звычайна мае непаўторную кампазіцыю,— Баразна дзеліць гравюры на пяць груп. На яго думку, у першай групе «кампазіцыя гравюр Скарыны будуецца па прынцыпу круга альбо васьмёркі». Да другой групы «адносяцца гравюры, у якіх кампазіцыя будуецца таксама па прынцыпу круга». Пра трэцюю групу Баразна піша, што «фактычна паміж другой і трэцяй групамі гравюр істотнай розніцы няма».

Наўрад ці варта даказаць неправанаўчасць дзялення, пры якім выяўляецца, што гравюры не маюць выразных адметных адзнак. І невыпадкова класіфікацыя Баразны сустрэла крытычныя заўвагі рэцэнзентаў[7]. Куды больш пераканаўчай (хоць таксама не беззаганнай) з'яўляецца класіфікацыя Шчакаціхіна, пабудаваная не на няўлоўных кампазіцыйных асаблівасцях, а на стылістычных і іконаграфічных адзнаках.

Як вядома, бездакорных прац (такіх, якія ставяць усе кропкі над «і») у навуцы не існуе. Не так ужо часта сёння трапляюць нам у рукі патрэбныя, карысныя, прынцыпова важныя для навукі кнігі і артыкулы. Альбому Баразны «Гравюры Францыска Скарыны» выпаў шчаслівы лёс —

ён належыць менавіта да такіх рэдкіх публікацый. Аўтар альбома па адукацыі быў не мастацтвазнаўцам, а мастаком. Тым не менш зрабіў вялікую карысць для навукі, пазнаёміўшы мастакоўскую грамадскасць з выдатнымі творамі Скарыны — першымі кніжнымі дрэварытамі ва ўсходнеславянскім друкарстве. Гэта дало магчымасць даследчыкам глыбей вывучыць гравюры асветніка — многія пазнейшыя аўтары абавязаны Баразне сваімі назіраннямі. Яго альбом пры ўсіх заўвагах заняў выдатнае месца ў гісторыі беларускага мастацтвазнаўства і кнігазнаўства. Ужо той факт, што зараз ён перавыдаецца зноў (выпадак для нашага маладога мастацтвазнаўства унікальны), гаворыць пра яго каштоўнасць, вартасць.

Дадзенае выданне ў асноўным захоўвае кампазіцыю працы Баразны, яго структуру, выяўленчы матэрыял. Без усякіх змен даюцца ўступны артыкул да альбома, каментарыі да гравюр.

Задача будучых даследчыкаў — дакладна атрыбуіраваць увесь графічны матэрыял Скарыны, апісаць гравюры, ініцыялы, арнаментыку, паказаць іх месцазнаходжанне ў кнізе. Паранейшаму актуальнай застаецца праблема паходжання выдатных дрэварытаў слыннага ўраджэнца Полацка.

*В. Шматаў*

# ПРЕДИСЛОВИЕ

В 1972 г. в культурной жизни республики, развитии нашего искусствоведения произошло заметное событие: в книжных магазинах появился альбом «Гравюры Франциска Скорины». Выпущенный тиражом 5000 экземпляров, он почти мгновенно разошелся, стал библиографической редкостью. Благодаря изданию в научный оборот был введен уникальный изобразительный материал, переоценить который невозможно: искусствоведы, художники, все, кто интересуется родной культурой, получили возможность ознакомиться с бесценным и загадочным художественным наследием великого белорусского первопечатника — просветителя и ученого-гуманиста Франциска Скорины, с иллюстрациями и орнаментикой его Библии (1517—1519), «Малой подорожной книжки» (1522) и Апостола (1525). Альбом не могли оставить без внимания историки искусства, в частности ксилографии, исследователи древнего зодчества, костюма, даже строительной техники и военного дела. И, конечно, это издание давно ждали все те, кому дорого имя славного уроженца Полоцка, кто интересуется книговедением, историей книгопечатания, полиграфией, типографикой.

Автор-составитель альбома — белорусский художник Леонид Тимофеевич Борозна (род. в 1929 г. в д. Новое Село Толочинского района, что на Витебщине,— умер в 1972 г. в Минске) — не увидел результата своей кропотливой собирательской, исследовательской работы — он трагически погиб всего за несколько недель до выхода из печати альбома.

Борозна был известен как талантливый живописец и график, мастер декоративно-прикладного искусства. Закончив Минское художественное училище (1955), он, подобно Язепу Дроздовичу, с этюдником и альбомом в руках путешествует по Витебщине и Гродненщине, Минщине, Мозырщине и Брестчине. Его интересуют все проявления материальной и духовной культуры народа, ее забытые, заброшенные сокровища. Он старательно зарисовывает в своем альбоме предметы быта белорусов, орудия труда, народный костюм. Потом учеба в Белорусском государственном театрально-художественном институте (закончил в 1968 г.), и снова собирательская, творческая работа. Результатом явились альбомы зарисовок «Белорусская народная одежда» (1958), «Белорусский народный орнамент Полесья» (1957), «Орнамент Гродненщины» (1960), которые, к сожалению, не были изданы. Особенно плодотворной была работа Борозны в области белорусского сценического костюма (согласно его эскизам создавались отличительные костюмы для танцевальных коллективов художественной самодеятельности Лиды, Слонима, Постав и др.).

Необходимо отметить и принципиальную последовательную гражданственность художника, который был настоящим возрожденцем и решительно, временами остро, отстаивал наше национальное наследие, утверждал его самобытность, право на свободное развитие.

Видимо, именно осознание своей ответственности за судьбу родной культуры, стремление служить ей до конца обусловили обращение Борозны и к памятникам древнего искусства Белоруссии, в частности к гравюрам Скорины. Результатом и явился названный выше альбом «Гравюры Франциска Скорины». Чтобы понять новизну и ценность работы Борозны,

следует сказать о том, что было сделано в этой области его предшественниками. Но сначала несколько слов об искусстве книг Скорины, о его гравюрах.

Знаменитое изобретение Гуттенберга славянские народы усвоили одними из первых. Приоритет принадлежит Чехии («Троянская хроника», около 1470 г.). Однако, как и глаголические издания (например, «Служебник», Венеция или Хорватия, 1483 г.), чешские инкунабулы непосредственного отношения к нашей теме не имеют. Первые книги кириллического шрифта были изданы в 90-е гг. XV в. в Кракове, где Швайпольт Фиоль выпустил «Актоих», «Часослов», «Триодь постную» и «Триодь цветную». Вслед за Фиолем в 1494 г. кириллическое книгопечатание возникло в южнославянских землях, в частности в столице Черногории — Цетинье, где иеромонах Макарий напечатал «Октоих первогласник» (1494), «Октоих пятигласник» (около 1494), «Псалтирь» (1494) и «Молитвенник» (1495). Вскоре кириллическое книгопечатание основано и в Валахии (на территории современной Румынии), где Макарий (прежний или другой — неизвестно) выпустил «Служебник» (1508), «Осьмигласник» (1510), «Четвероевангелие» (1512).

На раннем этапе развития книгопечатания как Гуттенберг, так и его последователи стремились средствами печати имитировать внешний вид рукописей. В этом убеждают издания Фиоля, демонстрирующие первый «рукописный этап» искусства кириллической книги. В книгах, выпущенных Макарием в Цетинье, использованы уже и отдельные печатные элементы (восходящие к венецианским изданиям Эрхарда Ратдольта инициалы, заставка с гербом Црноевича и др.). Однако в последующих кириллических книгах, выпущенных в 1512 г. Макарием в Валахии, тенденция к утверждению новой типографской эстетики не закрепилась: эти книги по своему художественному оформлению как бы возвращаются к более раннему «рукописному этапу».

Через 9 лет после начала книгопечатания в Валахии к книгоиздательской деятельности в чешской Праге приступил Скорина, издания которого по своему художественному оформлению и мастерству иллюстраций заметно превосходят не только предыдущие славянские, но и многие западноевропейские инкунабулы и палеотипы. В этих изданиях белорусский просветитель в области специфического искусства книги выступал настоящим новатором, по-новому решив проблемы иллюстрирования и декорировки, книжного дизайна и типографики.

Своеобразность и отличие оформления и художественно-технических новшеств скорининской Библии, «Малой подорожной книжки» и Апостола связана с особенностями издательской программы Скорины — «первого славянского деятеля книги, который сознательно отнесся к книге как к средству просвещения, идейного обогащения человека...» (А. А. Сидоров). Просветительский характер книгоиздательской деятельности известного уроженца Полоцка заметно отразился на искусстве его книг, потребовал и демократизации: уменьшения формата (пражские книги, которые выходили отдельными изданиями, напечатаны в «четверку», виленские — в 8-ю долю листа), достижения лучшей читаемости (а значит, реформы шрифта), новой пространственно-декоративной организации страниц, обращения к титульным листам и иллюстрациям с целью раскрытия в художественных образах содержания книги. Поставив задачу дать соотечественникам книгу «для размножения мудрости и науки», «абы научившиеся мудрости добре жили

на свете», Скорина первый указал на функциональную роль, значение для читателя не только иллюстраций, но также художественно-декоративных элементов. По сравнению с Фиолем и Макарием он в художественном оформлении заметно отошел от традиций церковнославянских рукописей, осознал значение типографской эстетики, усилил в оформлении светское гуманистическое начало.

Скорининские издания озарены подлинно ренессансным мировоззрением просветителя, на них лежит отражение его яркой и необычной личности. На титульном листе Библии киноварью гордо написано: «Бівлия руска выложена доктором҃ Францискомъ Скориною из славнаго града Полоцька, богу ко чти и людемъ посполитымъ к доброму научению». Подобные формулировки видим и в других, выпущенных им библейских книгах. В практике книгопечатания того времени это едва не единственный случай, когда рядом с заглавием Священного писания указаны издатель — притом не духовная, а светская личность — и его ученая степень.

Почти невероятным представляется тот факт, что в сакральной книге Скорина поместил не изображения святого Иеронима (переводчик Вульгаты в V в.) и не евангелистов, «святых писателей», а собственный гравюрный портрет — «один из самых ранних, если не первый из портретов печатников вообще» (В. С. Люблинский). В решении ряда сложных и важных проблем книжного искусства Скорина выступает настоящим новатором. Выпущенное им Священное писание — первая кириллическая Библия в мировом книгопечатании. Ее иллюстрационный цикл к Ветхому завету, который отличается широким тематическим диапазоном,— едва не самый ранний в Восточной Европе. В иллюстрациях, пронизанных духом настоящего демократизма, стремлением быть понятым широким читателям, в то же время заметен отход от чрезмерной повествовательности гравюр ранних печатных западноевропейских Библий. В них наметилась тенденция к освобождению зрительного образа от раболепного поклонения перед «буквой» библейского текста и усиления художественного начала, к выражению средствами гравюры сложного содержания книги. В утверждении возможностей «обрезной» ксилографии эти иллюстрации восходят к тем завоеваниям западноевропейской гравюры, которые связаны с творчеством М. Вольгемута, А. Дюрера и его школы. Именно их произведения вдохновляли мастеров Скорины, а в особых случаях использовались в качестве прототипа. В восточнославянском искусстве (не только книжном) трудно указать более яркие примеры такого результативного, творческого переосмысления достижений произведений западноевропейских мастеров и подчинения их задачам национального книгопечатания.

В изданиях Скорины, по существу, впервые в кириллическом книгопечатании представлены все известные к тому времени элементы художественного оформления книги. Скорина первый ввел в книгу титульный лист, фолиацию, колонтитулы, стишицы, сложные многофигурные иллюстрации; оригинально решены им сложные проблемы синтеза, нерасторжимого единства всех графических компонентов книжного ансамбля, дизайна. Белорусского просветителя можно по праву считать основателем типографики в кириллической книге: по умению художественно оформлять текст средствами набора и верстки он немного имеет себе равных. Кроме того, гравюры и орнаментика книг Скорины дают яркие и наглядные (притом наиболее ранние) примеры контактов восточнославянской печатной книги с искусством поздней готики и Ренессанса.

Без преувеличения можно сказать, что Скорина не только основал искусство восточнославянской кириллической печатной книги, но и поднял его на уровень лучших достижений своего времени. Не случайно В. В. Стасов называл его издания «славянскими Эльзевирами». Другие исследователи сравнивали их с именитыми «Альдинами» (книгами, которые в конце XV — начале XVI в. в Венеции выпускал знаменитый Альд Мануций).

В книжном искусстве Скорины особое место занимает первый в Восточной Европе библейский цикл иллюстраций — 51 оттиск (с 47 досок). Это в большинстве случаев многофигурные композиции на темы Ветхого завета. В кириллическом книгопечатании это первые иллюстрации, дающие изобразительную интерпретацию Священного писания, ибо «ни Швайпольт Фиоль в Кракове, ни печатники Балкан в 90-х годах XV века не привлекали гравюру для настоящей характеристики книги, для организации в художественных образах ее содержания»[1]. Такую задачу во всей ее сложности впервые решил Скорина, по-настоящему оценив силу и значение художественного образа в книге, роль иллюстрации как средства помочь читателю глубже и полнее осознать литературный первоисточник, яснее представить себе описываемых героев.

С миниатюрой белорусских (и в целом восточнославянских) рукописей библейский цикл иллюстраций Скорины по стилю и тематике не имеет ничего общего, все гравюры выполнены, бесспорно, в традициях западноевропейского искусства.

Заслуга Скорины не только в том, что он глубоко осознал значение типографской эстетики, роль иллюстраций, украшений и киновари как средств организации в художественных образах содержания книги — он, по существу, стал первым восточнославянским теоретиком книжного искусства. Большой интерес представляют его совершенно не изученные высказывания об иллюстрациях, заставках, значении цвета. Скорина решительно заявил, что все компоненты книжного искусства предназначены не для внешнего украшательства, а для того, «абы братия мая Русь, люди посполитые, чтучи могли лепей разумети». В предисловии к книге «Песнь песней» Скорина образно сравнивает киноварь с молодыми на свадьбе, это значит, подчеркивает содержательную и эмоциональную роль красного цвета. В «Малой подорожной книжке» просветитель выделяет практическое, «разделительное» значение заставок, которые, по его мнению, организуют чтение. Глубоко прав А. А. Сидоров, отметивший, что «Скорина — первый просветитель, указавший на народное назначение его изданий, а в них — на общественный смысл, на значение для читателя, для удобства восприятия его художественно-декоративных элементов»[2].

Высокий художественный уровень скорининских книг в России привлек внимание исследователей уже в XVIII в., первые их описания сделаны И. Г. Бакмейстером и И. Г. Штритером. Они зафиксировали и отдельные иллюстрации Библии[3].

В XIX в. описание изданий Скорины продолжено В. С. Сопиковым, П. М. Строевым, В. М. Ундольским, И. П. Коротаевым, А. И. Миловидовым, которые тоже упоминают «резные на дереве картинки». В 1830 г. И. М. Снегирев дал первое описание портрета Скорины из книги «Иисус Сирахов» и проиллюстрировал его копией А. А. Флорова (о ней дальше). Копии отдельных гравюр напечатали П. М. Строев и И. П. Сахаров. Иллюстрации в их публикациях выполнены в технике литографии и дают очень приблизительное представление о ксилографических (обрезная гравюра) оригиналах Скорины[4].

Все самое ценное, сказанное о гра-

фике Скорины дореволюционными авторами, принадлежит, бесспорно, В. В. Стасову. Рецензируя рукописный труд Равинского «Русские граверы и их произведения с 1564 г. до основания Академии художеств», он остановился на изданиях Скорины с гравюрами, «имеющими важную роль в ряде славянских произведений ксилографического искусства». Лаконичные замечания Стасова о скорининских гравюрах нередко удивляют своей проникновенностью — во всяком случае никто из дореволюционных исследователей не смог так глубоко увидеть их своеобразие, оценить художественные достоинства. Некоторые его наблюдения и выводы имеют принципиальное значение[5]. Его рецензии-исследования оказали существенное влияние на гравюроведческие работы Д. А. Равинского (позже также на Н. Н. Щекотихина), однако Равинский все же не смог по-настоящему оценить гравюры Скорины (фактически он только повторил то, что подсказал ему Стасов).

В 1888 г. П. В. Владимиров в известной монографии «Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык» (Спб., 1888) напечатал отдельные скорининские иллюстрации (портрет Скорины из книги «Иисус Сирахов», «Юдифь и Олоферн», «Эсфирь перед царем»), а также две заставки и 22 инициала Библии. Снимки гравюр в его книгах впервые делались непосредственно с оригиналов. Владимиров дал и короткое описание иллюстраций Библии.

Однако самая большая заслуга в изучении художественного наследия Скорины принадлежит одному из талантливых и ярких пионеров белорусского советского искусствоведения, его открывателю и старательному исследователю Николаю Николаевичу Щекотихину. Две его основательные публикации о гравюрах Скорины, по существу, стали первыми специальными исследованиями графического наследия просветителя[6].

Всесторонний анализ упомянутых публикаций Щекотихина может стать темой отдельной исследовательской работы. Это лучшие статьи искусствоведа (особенно вторая — в сборнике «Чатырохсотлецце беларускага друку»), которые внесли неоценимый вклад в научную Скориниану. Щекотихин дал обстоятельное описание большинству гравюр Скорины, классифицировал их, показал художественную особенность и связи с западноевропейской традицией. Назвал ряд аналогий, репродуцировал иллюстрации, заставки, инициалы. Обстоятельные работы Щекотихина, являющиеся примером объективного и скрупулезного анализа, не утеряли своей научной ценности и сегодня. Однако заложенный им фундамент нового ответвления в науке об искусстве — гравюроведения — в 30-е гг. не был продолжен: великий сын Отечества Франциск Скорина в это время был объявлен «иезуитом», а исследователи его многогранной деятельности (в том числе Щекотихин, трагически погибший в 1940 г. в ссылке) — «нацдемовцами», «врагами народа».

Только в 1972 г., через 46 лет после публикаций Щекотихина, общественность получила возможность снова познакомиться с гравюрами Скорины — подготовленный Борозной альбом «Гравюры Франциска Скорины» стал первым отдельным изданием графического материала просветителя. Причем наиболее полным. Щекотихин репродуцировал 28 фигурных иллюстраций, три титульных листа, три заставки и 22 инициала. Борозна же в своем альбоме воспроизвел 47 иллюстраций, 33 заставки и 108 инициалов пражских изданий.

Впервые показал Борозна и 12 «прыкладных» гравюр из книг «Царствия», «Исход» и «Левит» (№ 36—47). Кроме того, он дал многие стра-

ницы книг с виньетками и заставками, репродуцировал образцы шрифта, набора. Сама подача изобразительного материала в альбоме заслуживает внимания. Щекотихин фотографировал гравюры без текста, фактически «отрывал» изображение от него. Борозна отнесся к изобразительному материалу более бережно. Учитывая, что преобладающее большинство гравюр Скорины помещены на титулах, он дает их вместе с набором (заголовками книг и т. д.). К тому же рядом помещает увеличенные фрагменты гравюр, что дает возможность внимательнее изучить детали, технику резьбы...

Принципиально нового в альбоме Борозны немало. Он первый воспроизвел настоящий титул Библии Скорины (№ 48), который Щекотихин представил литографской копией XIX в., первым напечатал портрет Скорины из книги «Царствия» (34). Важно, что он репродуцировал две новых гравюры из «Малой подорожной книжки» — «Христос в Храме» (№ 29) и «Крещение в Иордане» (№ 30). До Борозны они ни разу не печатались. То же можно сказать о прикладных иллюстрациях из книг «Царствия», «Левит» и «Исход» (№ 36—47). К числу его открытий необходимо отнести и гравюру «Господь бог глаголет к Моисею...» (№ 22) из книги «Левит». Гравюра «Троица» из книги «Бытия» у Борозны сфотографирована с оригинала (№ 20), а у Щекотихина — с рисунка пером.

Вышесказанное не означает, что ценный труд Борозны не имеет недостатков. Например, в альбоме под № 35 помещен не настоящий портрет Скорины, а упомянутая копия, сделанная в XIX в. А. А. Флоровым в технике гравюры на меди. Его монограмму «Гр. Ал. Ф.» можно прочитать на репродукции Борозны. Причем в комментариях к гравюрам сказано, что этот портрет — из книги «Бытия». Между тем ни в одном из известных экземпляров этой книги портрета Скорины не существует. Современным исследователям известны только два оттиска портрета просветителя: в книгах «Иисус Сирахов» (1517, л. 82) и «Царствия» (1518, л. 242). Борозна называет их «вариантами». Однако они отпечатаны с одной доски, о чем свидетельствует полная тождественность композиции, стиля и манеры исполнения, приемов резьбы, психологического состояния образа, а главное — дата «1517» выгравирована на обоих листах. Портрет Скорины в альбоме назван Борозной «автопортретом», но никаких доказательств о том, что его рисовал и гравировал сам Скорина, не приводится. К тому же портрет внизу слева отмечен монограммой «МЗ» (или МТЗ), которая, по мнению Стасова, «явно означает гравера».

Борозна доказывает, что «Франциск Скорина был единственным автором всех гравюр и заставок, помещенных в его книгах» (с. 40). Однако две гравюры из «Малой подорожной книжки» («Христос в Храме» и «Крещение в Иордане») оттиснуты с досок нюрнбергской «Всемирной хроники» (1493) Г. Шеделя. Их автором скорее всего является наставник Дюрера — Михель Вольгемут.

Изобразительная стилистика и приемы резьбы остальных иллюстраций — разные, а это подтверждает предположение Стасова (его разделял и Щекотихин), что гравюры деланы явно руками нескольких мастеров. К тому же в Европе в XV—XVI вв. почти всегда существовало «разделение труда» между рисовальщиком, создателем композиции, образов и гравером-резчиком, реализовывавшим замысел художника в материале.

Инициал «С» из того же виленского издания («Акафист гробу господню», л. 1 отв.) оттиснут с клише нюрнбергского печатника Петера Вагнера (или Георга Штукса) и восходит в принципе к «Большому прописному

алфавиту» немецко-нидерландского гравера Израэля ван Менекема. Эти факты позволяют уточнить мнение Борозны об авторах скорининских иллюстраций.

Исключительно сложная и доныне не решенная проблема их происхождения требует специальных исследований. Стасов и Щекотихин называли чешскую граверную школу (которой, кстати, в то время еще не существовало). Однако факты свидетельствуют о контактах ряда гравюр Скорины с немецкой (нюрнбергской) школой гравюры, доминировавшей в Европе во времена Скорины. Отдельные его иллюстрации (№ 20, 25) варьируют листы знаменитого «Апокалипсиса» Дюрера, выпущенного в Нюрнберге в 1498 г. А. Кобергером. О немецком влиянии на гравюры Скорины писали М. Вишневский, П. В. Владимиров, В. А. Некрасов, Е. И. Кацпржак и другие авторы. Однако — это следует подчеркнуть — большинство иллюстраций Скорины отличаются художественной самостоятельностью и не имеют близких аналогий.

Говоря о серьезной подготовке Скорины в изобразительном искусстве, Борозна пишет, что просветитель имел ученую степень «доктора искусства» (с. 41). Но эта ученая степень в то время с изобразительным искусством не имела ничего общего (она предполагала знание грамматики, риторики, диалектики, арифметики, геометрии, музыки и астрономии).

Борозна считает: если бы Скорина обратился за помощью к резчикам-исполнителям, то обязательно бы отметил это, «как отмечал всех, кто участвовал в создании его книг». В качестве примера он называет Богдана Онькова (с. 40). На самом деле запись «ся стало накладом Богдана Онькова...» в книгах Скорины не напечатана, а сделана от руки. Никого из своих помощников (печатников, художников, резчиков) Скорина, к сожалению, не назвал в многочисленных предисловиях и колофонах своих книг.

Говоря о монограмме на портрете Скорины, Борозна считает, что буква «М» означает «малюнак», а «З» — начальная буква слова «зделать» (в словаре Скорины, кстати, такое слово не встречается). Поскольку «МЗ» стоит рядом с подписью «Доктор Франциско Скорина», все вместе нужно читать как «Малевание зделал доктор Франциско Скорина» или как «Малевания зиждитель доктор Франциско Скорина».

Между тем монограмма «МЗ» на портрете награвирована отдельно от подписи «Доктор Франциско Скорина». Композиционно они не связаны; к тому же подпись дана вязью, а вензель гравера — «обыкновенными» печатными буквами.

Я далек от намерения отрицать участие Скорины в деле украшения своих изданий; наоборот, считаю это актуальной задачей искусствоведения. Но для ее решения нужны глубокие исследования, новые факты, аргументы. К сожалению, до сих пор таких фактов, доказательств никто не привел. Думаю, ближе к истине Щекотихин, который считал, что Скорина скорее был рисовальщиком отдельных гравюр, автором композиций, но не ремесленником-резчиком. Никак невозможно отрицать и роль просветителя как консультанта, организатора всех работ в своей (или нанятой) типографии, настоящего вдохновителя художников. Ему, безусловно, принадлежат все подписи к иллюстрациям, рисунок шрифта Библии (на Западе кириллический шрифт не мог быть сделан без предварительных эскизов).

Нельзя также признать бесспорной избранную Борозной классификацию гравюр Скорины. В ее основе не приемы (манера) гравировки, а принцип композиции. Исходя из этого спорного принципа — ведь каждое на-

стоящее художественное произведение обычно имеет неповторимую композицию,— Борозна делит гравюры на пять групп. По его мнению, в первой группе «композиция гравюр Скорины строится по принципу круга или восьмерки». Ко второй группе «относятся гравюры, в которых композиция строится тоже по принципу круга» О третьей группе Борозна пишет, что «фактически между второй и третьей группами гравюр существенной разницы нет».

Вряд ли нужно доказывать неубедительность деления, при котором обнаруживается, что гравюры не имеют выразительных отличительных черт. И не случайно классификация Борозны встретила критические замечания рецензентов[7]. Куда более убедительна (хотя тоже не безукоризненна) классификация Щекотихина, построенная не на неуловимых композиционных особенностях, а на стилистических и иконографических отметках.

Как известно, безукоризненных работ (таких, что ставят все точки над «і») в науке не существует. Не так уж часто сегодня попадают нам в руки нужные, полезные, принципиально важные для науки книги и статьи. Альбому Борозны «Гравюры Франциска Скорины» выпала счастливая судьба — он относится именно к таким редким публикациям. Автор альбома по образованию был не искусствоведом, а художником. Тем не менее принес большую пользу науке, познакомив художественную общественность с замечательными произведениями Скорины — первыми книжными древоритами в восточнославянском книгопечатании. Это дало возможность исследователям глубже изучить гравюры просветителя — многие более поздние авторы обязаны Борозне своими наблюдениями. Его альбом при всех замечаниях занял почетное место в истории белорусского искусствоведения и книговедения. Уже тот факт, что сейчас он переиздается снова (случай для нашего молодого искусствоведения уникальный), говорит о его ценности, достоинствах.

Данное издание в основном сохраняет композицию работы Борозны, его структуру, изобразительный материал. Без всяких изменений даются вступительная статья к альбому, комментарии к гравюрам.

Задача будущих исследователей — точно атрибуировать весь графический материал Скорины, описать гравюры, инициалы, орнаментику, показать их местонахождение в книге. По-прежнему актуальна проблема происхождения замечательных древоритов славного уроженца Полоцка.

*В. Шматов*

# ВЫКАРЫСТАНАЯ ЛІТАРАТУРА


[1] *Сидоров А. А.* Древнерусская книжная гравюра. М., 1951. С. 31.

[2] *Сидоров А. А., Коляда Г. И.* О научных итогах 400-летнего юбилея русского книгопечатания//Книга: Исслед. и материалы. М., 1966. Сб. 2. С. 123—124.

[3] *Бакмейстер И. Г.* Опыт о библиотеке и кабинете редкостей и истории натуральной Санктпетербургской императорской Академии наук. Спб., 1779. С. 66; *Штритер И. Г.* Описание первого издания в печать и перевода на российский язык священной Библии в 1517—1519 годах//Опыт трудов Вольного рос. собрания при имп. Моск. ун-те. М., 1783. Ч. 6. С. 180.

[4] *Снегирев И. М.* Дополнение к статье IX//Труды и летописи О-ва истории и древностей рос. М., 1830. Кн. 1. С. 306—309. Табл. 4, 5; *Сопиков В. С.* Опыт российской библиографии, или Полный словарь сочинений и переводов, напечатанных на словенском и российском языках от начала заведения типографий до 1813 года. Спб., 1813. Ч. 1. С. 27—45; *Строев П. М.* Обстоятельное описание старопечатных книг славянских и российских, хранящихся в библиотеке тайного советника, сенатора, двора его императорского величества камергера и кавалера графа Федора Толстова. М., 1829. С. 6—23. № 5—13; яго ж. Палеографические снимки шрифтов (числом 12), принадлежащие к описанию старопечатных книг славянских, находящихся в библиотеке И. Н. Царского. М., 1836. Табл. 3, 4; яго ж. Палеографические снимки шрифтов с XV века по XVIII (числом 24), принадлежащие к обстоятельному описанию старопечатных книг славянских и российских, хранящихся в библиотеке графа Федора Андреевича Толстова. М., 1829. Табл. 3, 5, 6; *Сахаров И. П.* Образцы славяно-русского книгопечатания с 1491 г. Спб., 1891. Табл. IX—XVII.

[5] *Стасов В. В.* Разбор рукописного сочинения г. Ровинского «Русские граверы и их произведения с 1564 г. до основания Академии художеств»//Собр. соч. 1847—1886. Спб., 1899. Т. 2. С. 150—182.

[6] *Шчакаціхін М. М.* Дрэварыты і арнамент у выданнях Скарыны//Наш край. 1926. № 1. С. 8—17; яго ж. Увагі да ілюстрацый//Чатырохсотлецце беларускага друку. 1525—1925. Мн., 1926. С. 329—340.

[7] *Немировский Е. Л.* Альбом старопечатных гравюр//В мире книг. М., 1973. № 2. С. 74—75; *Голенченко Г. Я.* Гравюры Франциска Скорины//Книга: Исслед. и материалы. М., 1974. Сб. 28. С. 192.

Выдатны сын беларускага народа Францыск (Георгій) Скарына жыў і працаваў у эпоху, якая, па вызначэнню Ф. Энгельса, «мела патрэбу ў тытанах і якая нарадзіла тытанаў па сіле думкі, страснасці і характару, па шматбаковасці і вучонасці». Гэтыя словы Энгельса можна поўнасцю аднесці і да Скарыны — перадавога дзеяча эпохі Адраджэння, вялікага патрыёта і гуманіста.

Гуманістычныя паветы, якія ўзніклі ў Італіі яшчэ ў XIII стагоддзі, у XV — распаўсюджваюцца і на беларускіх землях. Бурнае развіццё гарадоў, а з імі рамёстваў і гандлёвых сувязяў аказвала станоўчы ўплыў на ўздым культуры народа. К пачатку XVI стагоддзя грамадска-эканамічны і культурны ўзровень быў ужо настолькі высокі, што дзейнасць вялікага гуманіста Францыска Скарыны — зусім заканамерная з'ява. Беларускае грамадства таго часу было падрыхтавана, каб успрыняць ідэі выдатнага асветніка.

Жыццё Скарыны — подзвіг. Ён прысвяціў яго адзінай мэце — «чинити добрыя дела и в них богатитеся», «оставиши в науце и в книгах вечную память и славу свою». Выканаць гэтую вялікую задачу можна было, толькі авалодаўшы тымі ведамі, якіх дасягнула тагачасная Еўропа.

І Скарына едзе вучыцца. Да нас дайшлі звесткі, што ўжо ў 1506 г. будучы заснавальнік беларускага кнігадрукавання скончыў Кракаўскі універсітэт з вучонай ступенню бакалаўра філасофіі. Пасля гэтага, невядома дзе, атрымаў яшчэ і вучоную ступень доктара свабодных навук. Восенню 1512 г. у італьянскім горадзе Падуя ён з гонарам абараніў званне доктара медыцыны.

Дзейнасць Скарыны пачалася ўжо пасля таго, як друкарскі станок, вынайдзены Іаганам Гутэнбергам, стварыў умовы для бурнага развіцця мастацкай графікі і асабліва кніжнай ксілаграфіі. З'яўленне гравюры на дрэве ў друку дало магчымасць шмат якім мастакам распаўсюджваць свае творы вялікімі тыражамі і такім чынам знаёміць з імі даволі шырокія колы грамадства. Гравюра прыйшла на змену дарагім мініяцюрам, якія раней упрыгожвалі рукапісныя кнігі. Таму ў гэты перыяд самым масавым відам выяўленчага мастацтва становіцца эстамп.

Працэс стварэння гравюр распадаўся на тры этапы: нанясенне малюнка на падоўжаную драўляную дошку з грушы, буку альбо вішні, абразанне — нанясенне нажом кожнага штрыха («абразная»

гравюра), выбіранне стамескай фону. І толькі пасля гэтага гравюра перадавалася друкару. Некаторыя мастакі стваралі гравюру ад пачатку да канца. Але часцей за ўсё два апошнія этапы выконвалі майстры-рамеснікі. Гэта тлумачыцца тым, што абразанне дошкі адымала ў мастака шмат часу, ён мог выкарыстаць гэты час на стварэнне новых гравюр, патрэба ў якіх усё павялічвалася.

Звесткі аб тым, якія сувязі і адносіны былі ў Скарыны з рамеснікамі-разбярамі, да нас не дайшлі. Але вядома, што беларускі асветнік быў надзвычай запатрабавальным да сябе, што ён быў вельмі сумленным і дасціпным чалавекам. І калі б ён звяртаўся за дапамогай да мясцовых разбяроў-выканаўцаў, то абавязкова б адзначыў гэта, як адзначаў усіх, хто ўдзельнічаў у стварэнні яго кніг. Прыкладам можа быць хаця б «Псалтыр» 1517 г. У гэтым выданні паведамляецца, што «ся стало накладом Богдана Онькова сына радцы места Виленского».

І таму ёсць усе падставы сцвярджаць, што Францыск Скарына быў адзіным аўтарам усіх гравюр і заставак, якія змешчаны ў яго кнігах. Амаль кожная з іх і нават некаторыя буквіцы адзначаны асабістай манаграмай Скарыны.

Амаль усе мастакі таго часу ўжывалі манаграмы. Гэта было вельмі зручна, таму што вырэзваць кожны раз сваё імя і прозвішча на маленькай гравюры — справа даволі складаная. Звычайна манаграма рабілася з ініцыялаў альбо ўмоўных знакаў. Манаграма Скарыны мае выгляд герба, які складаецца з малюнкаў месяца і сонца.

У некаторых (магчыма, ранніх) гравюрах замест сваёй манаграмы мастак уводзіць у кампазіцыю аднаго альбо групу вучоных-гуманістаў. Іншы раз сваё аўтарства Скарына сцвярджае ў пасляслоўі альбо ў прадмове: «А совершена ест повелением, працею и выкладом ученого мужа в лекарских науках доктора Франциска Скоринина сына из славного града Полоцка...»[1] ці «Божиею помощию зуполнь выложены и вытеснены повелением и пильностию ученого мужа в лекарских науках доктора Франциска Скорины...»[2]. А на 62-м лісце кнігі «Ісус Сірахаў» ясна сказана: «...пильность его применяеть малевание... Сердце свае выдасть ко искончанию дела, и пилностию своею окрасить недоконалую речь».

Такім чынам, Скарына сцвярджае, што па асабістаму жаданню ён пераклаў, надрукаваў і намаляваў усё тое, што змешчана ў яго кнігах.

У канцы XV стагоддзя ў многіх еўрапейскіх краінах друкаваная кніга стала ўжо масавай з'явай, асабліва ў Італіі і ў Германіі. На беларускай жа зямлі кніга была яшчэ рэдкай з'явай. Праўда,

у 1491 г. немец Швайпольт Фіёль, з выключна камерцыйнымі мэтамі, выдаў у Кракаве некалькі богаслужэбных кніг па стараславянскай мове. Але гэтага было яўна недастаткова. Беларусь заставалася адсталай. Скарына вельмі добра разумеў, што ліквідаваць гэтую адсталасць магчыма толькі шляхам адукацыі народа. І ён прысвячае сваё жыццё гэтай высакароднай мэце. А каб кнігі хутчэй дайшлі да сэрца чытача, Скарына выдае іх на зразумелай роднаму народу мове. Ён загадзя прадумвае кампазіцыю ўсёй кнігі, выбірае для ілюстрацый сюжэты, блізкія простым людзям.

Дзе і калі ён вучыўся выяўленчаму мастацтву, невядома, але дакументы сведчаць, што ў Скарыны была сур'ёзная падрыхтоўка і па гэтай спецыяльнасці. У 1512 г., калі ён прыйшоў трымаць экзамены на доктара медыцыны ў Падуанскі універсітэт, ён ужо меў вучоную ступень «доктара мастацтваў».

З гэтага часу, аж да 1517 г., звесткі аб Скарыне губляюцца. Дзе ён жыў і што рабіў — дакладна невядома. Аднак можна меркаваць, што ён у гэтыя гады займаўся літаратурнай працай, перакладамі, арганізоўваў друкарскую справу і, акрамя таго, рыхтаваў гравюры для будучых выданняў.

У пачатку XVI ст. кніжная графіка толькі-толькі стала развівацца. І Скарына ўносіць свой уклад у справу афармлення кніг. Кожнае яго выданне вызначаецца самастойнасцю. Вялікае месца ён адводзіць гравюрам. Беларускі асветнік надае гэтым гравюрам непаўторны каларыт, яркую мастацкую выразнасць. У прадмовах да кніг ён неаднаразова падкрэслівае, што мастацкае афармленне павінна дапамагаць лепш успрымаць тэкст — «ктобы пак межи простыми людми братии моей хотел яснее разумети, яковым обычаем был храм суделан, кивот, стол, светильник, требник и ризы жреческие,— тое все вымалеваное нижей знойдеть».

Мастацкім афармленнем кніг Скарыны цікавіліся Равінскі, Стасаў, Каратаеў, Уладзіміраў, Шчакаціхін. Вядомы даследчык творчасці Скарыны П. Уладзіміраў адзначаў, што па мастацкаму афармленню кнігі беларускага асветніка «перасягаюць усе ранейшыя славянскія выданні і могуць быць параўнаны толькі з самымі лепшымі нямецкімі выданнямі пачатку XVI стагоддзя»[3]. І У. Стасаў, гаворачы пра аздобу кніг Скарыны, падкрэсліў: «У Апостале 1525 г. загалоўныя літары, герб Скарыны і манаграма з літарай Т выкананы так тонка і пяшчотна, з такім здзіўляючым густам, што пераўзыходзяць усё награвіраванае ў падобным родзе ў Бібліі»[4].

Разглядаючы выяўленчую творчасць Францыска Скарыны, нас, у першую чаргу, цікавіць яго светапогляд, адлюстраванне эпохі ў яго творах, праяўленне нацыянальных рыс, уплыў яго твор-

часці на наступнае пакаленне майстроў мастацкага афармлення кніг. Выданні Скарыны вызначаюцца арыгінальнасцю, непаўторнасцю з пункту гледжання кніжнага мастацтва. Яны заўсёды прыцягвалі і прыцягваюць увагу мастакоў, мастацтвазнаўцаў, людзей, якія цікавяцца старажытнымі скарбамі культуры.

«Менавіта дзякуючы выданням Скарыны Беларусь стала першай у ліку ўсходнеславянскіх краін, якія далучыліся да агульнага ходу развіцця заходнееўрапейскага друкарства, і праз пасрэдніцтва Прагі, дзе спачатку працякала праца Скарыны, моцна звязалася з лепшымі традыцыямі не толькі чэшскага, але таксама нямецкага і італьянскага друкарскага мастацтва»[5]. Выданні Скарыны і паклалі пачатак беларускім нацыянальным кнігадрукарскім традыцыям, а таксама зрабілі пэўны ўплыў на развіццё рускага і ўкраінскага кніжнага мастацтва.

Немагчыма пераацаніць велізарнае значэнне дзейнасці беларускага першадрукара. Выдатны асветнік, гуманіст, патрыёт, таленавіты мастак заваяваў шырокае прызнанне нашчадкаў. Аднак жыццё і працы слаўнага сына беларускага народа яшчэ поўнасцю не вывучаны. Да найбагацейшай культурнай спадчыны Францыска Скарыны яшчэ не раз будуць зварочвацца вучоныя і мастацтвазнаўцы.

У гэтым альбоме сабраны ўсе графічныя работы з дайшоўшых да нас кніг Скарыны, якія знаходзяцца ў розных бібліятэках Савецкага Саюза. Пры аглядзе работ беларускага першадрукара ўсе гравюры ў альбоме класіфікуюцца і падзяляюцца на пяць груп. Гэта дае магчымасць лепш ацаніць творчасць мастака, вывучыць стылістычныя і кампазіцыйныя прыёмы афармлення яго кніг. Асобна выдзелены прыкладныя гравюры, застаўкі, віньеткі, загалоўныя літары.

Альбом «Гравюры Францыска (Георгія) Скарыны» — гэта пакуль толькі спроба сістэматызацыі і аналізу выяўленчай творчасці вялікага беларускага асветніка. І, безумоўна, справа будучага — шырэй і глыбей вывучыць і раскрыць велізарны ўклад Скарыны не толькі ў друкарскую справу, але і ў выяўленчае мастацтва беларускага народа.

## ПЕРШАЯ ГРУПА

Сюды ў асноўным адносяцца ілюстрацыі, якія змешчаны на тытульных лістах у кнігах Бібліі: «Юдзіф», «Эсфір», «Выхад», «Другі закон», «Ісус Навін», «Святога прарока божыя Данііла», «Суддзяў».

Гэтыя гравюры носяць чыста ілюстрацыйны характар. Аднак мастак, як правіла, выбірае для ілюстрацыі такі эпізод кнігі, які найбольш поўна раскрывае сутнасць твора. У гравюрах першай групы на пярэднім плане вялікімі пластычна-мадэляванымі фігурамі размяшчаюцца галоўныя дзеючыя асобы. Іх псіхалогія раскрываецца на супрацьпастаўленнях. Кампазіцыя гравюр Скарыны будуецца па прынцыпу круга альбо па прынцыпу васьмёркі. Асноўныя і другарадныя дэталі размяшчаюцца так, каб позірк пераходзіў з адной дзеючай асобы на другую і накіроўваўся на галоўнае ў кампазіцыі. Пры ўважлівым разглядзе гравюр становіцца ясна, што Скарына вельмі сур'ёзна адносіўся да выбару тэхнікі разьбы і штрыха, якія найбольш поўна раскрываюць змест гравюры.

На ўсіх гэтых гравюрах змяшчаецца манаграма — герб Скарыны.

Вось найбольш характэрная гравюра гэтай групы — «Дачка фараона і Майсей» з кнігі «Выхад». Гэта вельмі выразны, поўны глыбокага сэнсу твор. Тут усё пабудавана на процiпастаўленнях. Бясстрашная, прывыклая загадваць дачка фараона і ўсхваляваная, поўная любві да выратаванага сына карміліца. Задаволены твар фараона, які назірае за тым, як слугі кідаюць у бурлівыя воды ракі яўрэйскіх дзяцей, і радасць служанкі, якая дапамагла адвесці смерць ад аднаго з гэтых дзяцей — маленькага Майсея.

Гравюра вызначаецца эмацыянальнай насычанасцю, вобразнасцю, мастацкай завершанасцю і высокім узроўнем выканаўчага майстэрства. Праўда, падобныя малюнкі сустракаюцца і ў чэшскай Бібліі 1506 г., а таксама ў лацінскай, аднак яны выкананы значна слабей.

Кожны персанаж гравюры — жывы чалавек, кожны — індывідуальны. Прычым біблейскіх герояў аўтар паказвае ў вопратцы свайго часу. І тут, як і ў іншых гравюрах, ярка праявіліся беларускія нацыянальныя і наогул славянскія рысы. Твары карміліцы-маці і слуг, вопратка бабак-павітух — шнуроўкі, намёткі і г. д.— яўна беларускія.

У гэтай гравюры, таксама як і ў астатніх, што адносяцца да першай групы, выбар тэхнічных прыёмаў глыбока прадуманы. Штрыхі, нанесеныя на гравюру, мімаволі накіроўваюць увагу ў

цэнтр кампазіцыі. Светлая фігура маці падкрэсліваецца цёмным фонам. Цікава і тое, што другі план зусім не засланяюць пярэднія вялікія фігуры. Аўтар дасягнуў гэтага тым, што змясціў цёмныя фігуркі другарадных дзеючых асоб на фоне светлага неба.

Параўноўваючы гравюры гэтай групы, можна заўважыць некаторую блізкасць у трактоўцы вобразаў. Так, напрыклад, вельмі падобныя адна на другую Юдзіф, Эсфір і дачка фараона, а прарок Данііл нагадвае селяніна-радцу з кнігі «Ісус Навін».

Ілюструючы кнігі, мастак выбірае больш блізкі яго сэрцу эпізод. Юдзіф, напрыклад, паказана ў момант помсты ворагу-захопніку. Кампазіцыя гравюры «Іудифъ вдовица отсече главу Олферну воеводе» — трохпланавая. На заднім плане — горад. Перад горадам раскінуўся вялікі шацёр, які займае большую палову поля. У шатры на высокім ложку ляжыць Алаферн з адсечанай галавой. Яго бяссільна апушчаная рука міжволі накіроўвае позірк гледача на галоўны персанаж — Юдзіф. Яна стаіць, горда абапёршыся на меч. Без ценю хвалявання кідае яна ў торбу галаву ворага. Выразны, цудоўны твар яе, якім усяго некалькі мінут назад захапляўся Алаферн, свеціцца радасцю помсты.

Тут Юдзіф перш за ўсё патрыётка. Дзеля шчасця і незалежнасці свайго народа яна гатова ахвяраваць жыццём.

На гравюры «Эсфір» адлюстраваны эпізод, дзе Эсфір вымольвае памілаванне свайму народу ў цара Асфера. Шчырае маленне кранае сэрца магутнага цара. А ў гравюры «Ісус Навин ведеть людей Ізрайлевы чере Іордан» адлюстравана адзінства і мэтанакіраванасць людзей, якія паслухмяна ідуць за сваім кіраўніком і перамагаюць. У гравюры «Данііл перамагае льва» паказана веліч і моц чалавека — гаспадара прыроды.

## ДРУГАЯ ГРУПА

Да гэтай групы адносяцца гравюры, у якіх кампазіцыя будуецца таксама па прынцыпу круга. Аднак цэнтр дзеі, галоўны яе персанаж пераносіцца ў глыбіню. І калі ў папярэдніх гравюрах усе персанажы актыўна ўдзельнічаюць у падзеі і абавязкова нясуць якую-небудзь сэнсавую і псіхалагічную нагрузку, то ўжо ў гэтай групе гравюр некаторыя дзеючыя асобы толькі прысутнічаюць. Іх магло б і не быць.

Кампазіцыя гравюр другой групы больш шырокага плана, у

іх свядома падкрэсліваецца лінейная перспектыва. У некаторых з іх адсутнічае аўтарская манаграма. Замест яе мастак уводзіць прадстаўнікоў свайго саслоўя — вучоных людзей.

Некаторыя гравюры гэтай групы іншы раз паўтараюцца. Так, напрыклад, гравюра «Бічаванне Іова» з «Кнігі Іова» выкарыстоўваецца яшчэ і як застаўка на чацвёртым аркушы гэтай жа кнігі. Гравюра «Саломонъ беседуетъ съцарицею Саваю» з трэцяй «Кнігі царстваў» змешчана і на тытульным лісце «Эклесіяста».

Найбольш цікавай работай гэтай групы можна лічыць «Дыспут» з кнігі «Ісус Сірахаў». У даным выпадку Скарына не ілюструе выданне, а бярэ свабодную тэму — дыспут. Вось што гаворыць сам Скарына ў прадмове да гэтай кнігі: «Найболей о мудрости..., о справедливости, о вере, о любви, о надежи, о чистоте..., о крепости, о трезвости, о мерности, о почтивости, о щедрости, о тихости, о друголюбии, о послушании родителей своих, о справовании самого себе, о товариществе добром и злом..., и о иншых различных многих добрых обычаях и правах...» У прадмовах да асобных кніг Бібліі Скарына неаднаразова падкрэслівае ролю і значэнне навукі ў практычным жыцці.

«Дыспут» — гэта быццам замалёўка з натуры, адлюстраванне таго, як яшчэ ў часы беларускага асветніка спрэчкі, абмеркаванні садзейнічалі абуджэнню розуму, нараджэнню ісціны.

У гравюры «Навходносор царь вавилонский добывае Ерусалима» з чацвёртай «Кнігі царстваў» паказаны момант бітвы. Гравюры, якія адлюстроўвалі турнірныя паядынкі, бывалі ў Еўропе, аднак такой выразнай, такой дынамічнай кампазіцыі не было ў графіцы таго часу. Кампазіцыя карысталася папулярнасцю. Яе пераймалі. Асабліва ярка праявілася перайманне ў гравюры «Грунвальдская бітва», змешчанай у «Хроніцы польскай».

Справа ў тым, што Скарына выступае тут як гарачы прыхільнік міру на зямлі, бічуе войны, якія прыносяць спустошэнне, знішчэнне людзей. Ён яўна з тымі, хто да апошняга дыхання абараняе родны горад (наперадзе войска абаронцаў штандар з гербам аўтара). У гравюры адлюстраваны асабістыя назіранні Скарыны, які быў сведкам бясконцых войнаў Вялікага княства Літоўскага (1492—1494 гг., 1500—1503 гг., 1507—1508 гг., 1512—1522 гг., 1534—1537 гг.). Супраць такіх войнаў і выступае беларускі асветнік. У гравюры «Людзі божыя» з чацвёртай «Кнігі Майсея» канкрэтным і ўпэўненым штрыхом намаляваны фігуры рыцараў-вандроўнікаў у зброі, што бытавала ў Беларусі XV стагоддзя. Пад спякотнымі праменнямі сонца яны вяртаюцца на родную зямлю, а над імі развяваецца сцяг з гербам Скарыны.

У тэхнічных адносінах другая і першая група гравюр вельмі блізкія. Аднак у другой групе штрых больш упэўнены, ён смялей кладзецца па форме фігур і адзення, надаючы малюнку аб'ёмнасць.

Трактоўка некаторых вобразаў часта таксама падобна. Так, напрыклад, разважлівы вучоны, змешчаны на пярэднім плане гравюры «Бічаванне Іова», паўтараецца ў «Дыспуце». Праўда, у другім выпадку ён больш дынамічны. Двух іншых вучоных з «Кнігі Іова» можна бачыць на гравюры «Першы суд Саламона», яшчэ раз аднаго з іх — у «Дыспуце» кнігі «Ісус Сірахаў». І гэта невыпадкова. Магчыма, Скарына рашыў увекавечыць сваіх сяброў-вучоных.

## ТРЭЦЯЯ ГРУПА

Фактычна паміж другой і трэцяй групамі гравюр істотнай розніцы няма. Масавыя сцэны, лінейная перспектыва, глыбіня ў раскрыцці вобразаў характэрныя для абедзвюх груп. Але, падзяляючы гравюры па чыста фармальных прыкметах, да трэцяй групы можна аднесці тыя, дзе асноўная дзея перанесена з цэнтра ў левы вугал. Такія, напрыклад, як «Царь Саломон ставит храм господу богу Въерасулиме» — трэцяя «Кніга царстваў». Усё поле кампазіцыі займае храм, які яшчэ будуецца. Ён нагадвае будынкі, што ўзводзіліся ў тыя часы на тэрыторыі Беларусі. Ужо ў гатовым выглядзе гэты храм з'яўляецца на гравюры да чацвёртай «Кнігі царстваў». Гэта сведчыць аб тым, што Скарына працаваў аднача-сова над некалькімі гравюрамі.

У левым вугле гравюры — цар са світай. Ён уважліва назірае за будаўніцтвам, а дойлід, відаць тлумачачы, паказвае на пад'ёмны механізм. Шмат чаго з намаляванага тут выклікае ў нас вялікую цікавасць.

На гравюры адлюстраваны каменячосы, укладчыкі каменняў і г. д. А вось вобразы цара і яго світы ўжо не новыя. Стары дарадчык, напрыклад, той жа, што і на гравюры «Святы Іова» з кнігі «Ісус Сірахаў». Падобны ён і на прарока Данііла. У цара многа агульнага з вучонымі з «Дыспуту» і «Саборніка».

Тут усё прадумана. Усё прыцягвае ўвагу гледача да галоўнага — да будаўніцтва храма. І ўзнятая рука дойліда, і скрынка з вапнавым растворам, невыпадкова пашыраная з правага боку, і гатычныя аркі — усё накіроўвае позірк да будаўніка і каменя-

чосаў. Кампазіцыя вырашаецца проста, моцна і лагічна. Нават прысутнасць цара не зніжае ўражання ад велічнасці працы чалавека-стваральніка.

«Самуйлъ Прарок господень помаза Давыда нацарство» — гэта гравюра з першай «Кнігі царстваў». Яна вырашана таксама вельмі арыгінальна. На яе пярэднім плане дзве варожыя групы, якія быццам аб'ядноўваюцца фігурай воіна-стражніка. Галава воіна рэзка павернута — ён глядзіць у бок незадаволенага Саула. Кампазіцыя цікавая не толькі як твор мастацтва. Яна даносіць да нашых дзён абрысы сярэдневяковай гарадской плошчы, перадае тыпы гараджан, своеасаблівасць адзення эпохі Скарыны.

Вялікую цікавасць мае і адзіная гравюра на сельскую тэму — «Руфъ прабаба царя Давыдова пабирае класы зажнеци». Гэта ілюстрацыя да кнігі «Руф» сведчыць, што Скарына добра ведаў і любіў родную зямлю. І ўзвышаны ландшафт, і камяністая дарога, парослая хмызняком, і спелае жыта ў лагчыне вымалеваны вельмі дакладна. Відаць, што аўтар любуецца краявідам, жняцамі, іхнім адзеннем — маляўнічымі саламянымі капелюшамі, шырокімі і доўгімі кашулямі, пастоламі і нават тоўста накручанымі анучамі.

Кампазіцыя будуецца па дыяганалі — ад Ваоза, які стаіць, абапёршыся на кій, і глядзіць уверх — на Руф, якая старанна падбірае каласы.

Святочнасцю і, можна сказаць, параднасцю павявае ад гравюры да другой «Кнігі царстваў» — «Царь Давыдъ играеть въгусле неся кивот господень». Кампазіцыя яе ясная, праўдзівая. І выканана яна без лішніх штрыхоў і ценяў.

## ЧАЦВЁРТАЯ ГРУПА

Гравюры гэтай групы некалькі адрозніваюцца ад іншых. Тут і стыль і тэхнічнае выкананне зусім іншыя. Штрых больш гібкі, больш жывапісны. Галоўная дзеючая асоба — бог. Воблакі, неба — усё, што акружае бога, патрабуе своеасаблівай манеры выканання, больш манументальнай, сіметрычнай кампазіцыі.

Самай характэрнай гравюрай гэтай групы можна лічыць «Стварэнне свету», ці «Шэсць дзён светабудовы», з першай кнігі Бібліі — «Быцця». Гравюра складаецца з шасці асобных фрагментаў. У адпаведнасці са «Свяшчэнным пісаннем» яны паслядоўна адлюстроўваюць шэсць дзён стварэння свету. Фрагменты падзелены між сабой падоўжнымі і папярочнымі палосамі. І ў палосах, як абрам-

ленне кожнага фрагмента, змешчаны арнамент з дубовых лісцяў замест традыцыйных назваў дзён.

Гравюры на гэтую тэму стваралі і раней, у лацінскай і чэшскай Бібліях, напрыклад. Аднак якасць выканання гэтых гравюр значна ніжэй скарынінскіх. Беларускі асветнік здолеў па-свойму пабудаваць кампазіцыю. Німб, які асяняе галаву бога, ён вывеў на рамку арнаменту. А ў гравюры пятага дня, дня стварэння нябесных свяцілаў, замест сонца і месяца беларускі першадрукар змясціў свой герб. Для таго часу гэта быў надзвычай смелы ўчынак. Ён яшчэ раз даказвае, што беларускі гуманіст яўна ішоў уразрэз з царкоўнымі традыцыямі, бязбоязна зрываў покрыва святасці і таямнічасці.

У гэтай жа манеры вырашана невялікая гравюра «Бог у раі». Скарына намаляваў тут бога простым чалавекам, звычайным пастухом, які адпачывае на ўлонні створанага ім свету. Прычым мастак, не лічачыся ні з якімі рэлігійнымі канонамі, зняў нават німб з галавы «тварца».

У гравюрах чацвёртай групы назіраецца даволі вольнае абыходжанне з Бібліяй, што наогул характэрна для ўсёй творчасці Скарыны. І хоць большасць работ беларускага асветніка надзвычай своеасаблівыя, арыгінальныя, усё ж нельга не адзначыць, што ёсць у гэтай групе гравюр і пераймальныя. У іх яўна адчуваецца ўплыў вядомага нямецкага мастака Альбрэхта Дзюрэра. Ствараецца ўражанне, што, напрыклад, у гравюры «Тройца» Скарына свядома паўтарае распаўсюджаную, вельмі папулярную работу Дзюрэра «Бітва архангела Міхаіла з д'ябламі». Але і ў гэтую гравюру беларускі мастак здолеў унесці шмат свайго. Упершыню ён уводзіць у кампазіцыю трохаблічнага бога — сімвал святла. Такім чынам ён асабліва ярка падкрэслівае пафас барацьбы дабра са злом. І да таго ж работа Скарыны выканана на больш высокім мастацкім узроўні. Між іншым, херувімы, змешчаныя на гэтай гравюры, быццам перанесены сюды з «Шасціднеўца».

Вельмі ўдала, на супрацьстаўленні, вырашаны цэнтральныя вобразы гравюры да трэцяй «Кнігі Майсея» «Господь богъ глаголет къМоисею ухраму сведения» — вобразы пакутлівага Майсея і магутнага Саваофа.

Надзіва манументальная, вобразная фігура Давіда з гравюры «Цар Давід». Яе герой звяртаецца да бога з псалмамі. Гэта работа надрукавана ў «Псалтыры» 1517 г.

Гравюра «Генеалагічнае дрэва Ісуса», альбо «Корань Іясеяў», чымсьці нагадвае тыя, што змешчаны ў «Нюрнбергскай хроніцы» Шэдэля 1493 г. і ў чэшскай Бібліі 1506 г. Толькі ў гэтых выданнях

радаслоўная паказана на некалькіх аркушах, а ў Скарыны ўсё сабрана ў адзінай кампазіцыі. Мастак смела рэдагуе радаслоўную, выкідвае менш важных цароў. Кампазіцыя атрымалася больш вобразнай і выразнай.

Вялікую цікавасць выклікае гравюра «Прамудрасць божая». У цэнтры кампазіцыі — Хрыстос з кнігай у руках. Пад воблакамі, на якіх сядзіць бог,— зямля. А на гэтай зямлі — юнак у мантыі вучонага. Безумоўна, гэта і ёсць сам Скарына. Такое меркаванне ўжо было выказана мастацтвазнаўцам Уладзіміравым.

Гравюра надзвычай рытмічная, кожная дэталь у ёй прадуманая, ёй нададзена выразная акруглая форма: круглая зямля, круглы німб, авальная спіна юнака, герб аўтара і нават фігура Хрыста маюць форму эліпса. Усё гэта стварае ўражанне кругавароту, які адбываецца ў прыродзе.

Беларускі першадрукар амаль заўсёды знаходзіў для сваіх кампазіцый патрэбны стыль, форму адлюстравання аўтарскай думкі. Талент мастака найбольш ярка выяўлены ў гравюры да кнігі «Песня песняў». Штрых і лінія падабраны тут так тонка і так дакладна, што ствараюць уражанне светлай сімфоніі.

## ПЯТАЯ ГРУПА

Ужо гаварылася пра тое, што дзяленне гравюр на групы носіць чыста ўмоўны характар. Аднак некаторыя гравюры нельга аднесці ні да адной з гэтых чатырох умоўных груп, і таму іх трэба вылучыць. З чыста тэхнічнага боку яны маюць элементы, уласцівыя папярэднім групам. Такім чынам, шляхам параўнання можна прасачыць паступовы рост майстэрства мастака.

Гравюра «Благавествуетъ Гавриілъ пречистой девици Богородици Марии» змешчана на тытульным лісце «Акафіста багародзіцы» з «Малой падарожнай кніжыцы». Схема яе кампазіцыі не новая. Яна сустракаецца ў чэшскім «Новым законе» 1498 г., у страсбургскім «Nortulus animae» 1507 г. і ў інш. На каленях перад аналоем — дзева Марыя. З затоенай усмешкай слухае яна архангела Гаўрыіла, які паведамляе, што ў яе хутка павінен нарадзіцца сын. У Скарыны са значна большым майстэрствам раскрыта псіхалогія герояў, іх духоўны свет.

На другой гравюры да «Малой падарожнай кніжыцы» — Марыя ўжо з дзіцем. Радасцю мацярынства асветлены яе твар. Уся сцэна быццам змалявана з натуры. І невыпадкова мастак адмаўляецца

тут ад традыцыйных німбаў. Правобразам Марыі і багародзіцы з гравюры «Корань Іясеяў», відавочна, была адна і тая ж жанчына з ярка выяўленымі рысамі тыпічнай славянкі.

Гравюра гэтай групы «Господь нашъ Іисус Христосъ вохраме навчаеть законовчителей іудейских» чымсьці нагадвае «Дыспут» (другая група), а гравюра «Светый Іоанъ Предътеча крещаеть Войордани господа нашего Іисуса Христа» — «Эсфір» (першая група).

Калі ўважліва прыгледзецца да гравюры «Еремиа пророкъ господень плачеть гледя Наерусалим», здаецца, што мастак перажыў адлюстраваную на гравюры падзею. І дакладна перадаў свае адносіны да яе.

Багародзіца з тытульнага ліста «Малой падарожнай кніжыцы» чымсьці нагадвае ікону віленскага Святатроіцкага манастыра. Гэта адзіная тэматычная гравюра, якая выканана на чорным фоне.

Але самую вялікую каштоўнасць маюць аўтапартрэты Францыска Скарыны. Іх два. Адзін — у кнізе «Ісус Сірахаў» 1517 г., другі — у чацвёртай «Кнізе царстваў» 1518 г. і ў кнізе «Быцця» 1519 г. Яны амаль нічым не адрозніваюцца адзін ад другога.

Беларускі першадрукар намаляваў сябе ў доктарскай мантыі. Ён сядзіць за пюпітрам, які накрыты абрусам. Перад ім — раскрытая кніга. У руцэ — пяро. Яго рабочы пакой запоўнены прадметамі, якія сведчаць пра шматбаковую дзейнасць беларускага асветніка. Тут кнігі, глобус, пясочны гадзіннік — сімвал руху часу, свечка з рэфлектарам, якія характарызуюць нястомную працу, гарлачык з фарбамі, гравёрныя дошкі, кошык для паперы. Па баках гравюры — геральдычныя знакі. Велічныя львы, быццам на варце ідэй гуманізму, трымаюць гербы людзей, якія прымалі ўдзел у справах Скарыны. А на абрусе, якім засланы пюпітр, выразна намаляваны герб аўтара.

У вянцы з дубовых лісцяў надпіс — «а. ф. 31». У перакладзе на сучаснае летазлічэнне — 1517 год. Унізе беларускай вяззю выведзена: «Доктор Франциско Скорина». Гэта адзіны подпіс, які гаворыць пра аўтарства мастака. Злева — вензель з літар «М» і «З».

Яшчэ Стасаў лічыў: «...на тым жа лісце стаіць манаграма, складзеная з літар М і З, яўна адзначаючая гравёра. Значэнне яе пакуль што застаецца загадкай. Магчыма, яна мае прамыя адносіны да асобы Скарыны, або стваральніка малюнкаў»[4].

Хутчэй за ўсё гэта і будзе самае правільнае меркаванне. І расшыфроўваецца манаграма, відаць, так: «М» — загалоўная літара слова «малюнкі». Яно даволі часта сустракаецца на старонках

кніг Скарыны, напрыклад, у кнізе «Ісус Сірахаў»: «Он же чинить образы резаныя з древа, и пильность его применяеть малевание».

«З» — пачатковая літара слова «зделать». Яно таксама сустракаецца ў выданнях Скарыны. А можа быць, «З» — загалоўная літара стараславянскага слова «зиждитель» (тварэц, стваральнік). Скарына звяртаўся і да старaславянізмаў.

Карацей кажучы, ёсць падставы сцвярджаць, што вензель «МЗ», які стаіць побач з подпісам «Доктор Франциско Скорина», трэба чытаць як «Малевание зделал доктор Франциско Скорина» або як «Малевания зиждитель доктор Франциско Скорина».

Дзякуючы гэтым унікальным партрэтам да нас дайшоў вобраз выдатнага сына беларускага народа.

Кожная дэталь, кожны штрых і лінія кампазіцыі выкананы з такім майстэрствам, што гэтыя гравюры, па сцвярджэнню Стасава, можна параўнаць з работамі лепшых нямецкіх мастакоў. Яны ўвабралі ўсё лепшае, усе дасягненні мастака мінулых гадоў. Гэта — вяршыня выяўленчай творчасці Скарыны.

## ПРЫКЛАДНЫЯ ГРАВЮРЫ

Так ахарактарызаваў гэтую групу гравюр Мікола Шчакаціхін. Да іх адносяцца наступныя гравюры.

З «Кнігі Майсея» «Выхад».

1. «Образъ требника, нанемже приношаше Аарон жертвы».
2. «Взоръ кивота или скрини завета Гасподъня».
3. «Взоръ ризъ жреческих еже быша Наароне» (у двух варыянтах).
4. «Взоръ светилника златого светиемъ его».
5. «Взоръ стола нанемже бе хлебъ посвященный».

З трэцяй «Кнігі царстваў».

6. «Взоръ моря или умывальници медяное».
7. «Взоръ дву столповъ иже предъ храмомъ».
8. «Взоръ храму господъня Отсаломона деланаго».
9. «Взоръ дому древяна царя Саломона».
10. Образъ дву херувимовъ вмолитовници».
11. «Взоръ десяти подъставокъ и баней ихъ».

# ЗАСТАЎКІ, ВІНЬЕТКІ, МАНАГРАМЫ (ГЕРБЫ), ЗАГАЛОЎНЫЯ ЛІТАРЫ

Спецыяльна для кніг пражскага перыяду Скарына выразаў тры гравюры-застаўкі, якія змяшчаў пасля аўтарскай прадмовы, перад пачаткам біблейскага тэксту або ў канцы яго. На адной з заставак намаляваны дзеці, падобныя на анёлаў з гравюр «Шасцідвеўца», «Тройцы» і іншых. Адзін анёл трымае лук, другі — факел.

На другой застаўцы — дзве паясныя жаночыя фігуры, якія нагадваюць свіцязянак. Прыгожыя галоўкі звернуты да цэнтра — туды, дзе змешчаны герб Скарыны.

На трэцяй застаўцы — фігуры мужчын. Адной рукой яны абапіраюцца на шчыт, у другой руцэ ў іх зброя — драўляныя рагулі. На галаве, замест валасоў, як у Самсона з «Кнігі суддзяў», дубовае лісце — сімвал сілы і славы мужчынскай. Вышэй цэнтральных фігур, у разгалістым дубе, герб Скарыны.

Заканамерная паслядоўнасць гравюр-заставак глыбока прадумана аўтарам.

Акрамя таго, у кнігах Скарыны змешчана вялікая колькасць віньетак (больш за 30). Многія з іх леглі ў аснову стварэння рамак для тытульных лістоў. Такі прыём асабліва часта сустракаецца ў віленскіх выданнях «Апостала» і ў «Малой падарожнай кніжыцы». Але часцей за ўсё віньеткі ў выданнях Скарыны ўжываюцца для мастацкага афармлення загалоўных літар, што робіць кніжны аркуш непаўторна прыгожым.

Амаль на кожнай скарынінскай гравюры прысутнічае герб. Аб прыналежнасці і значэнні гэтага герба некаторыя даследчыкі творчасці беларускага першадрукара выказвалі розныя меркаванні. Большасць з іх, аднак, схілялася да таго, што гэта асабістая манаграма Францыска Скарыны. Адлюстраванне сонца з абліччам чалавека ў фас і месяца з чалавечым профілем сустракаюцца ў шмат якіх заходнееўрапейскіх друкаваных кнігах — у «Хроніцы» Шэдэля 1493 г., у «Евангеллі», выдадзеным Іаганам Грумгерам (Страсбург, 1514 г.), у лацінскай Бібліі 1514 г. і г. д. Але ў гэтых выданнях сонца і месяц намаляваны паасобна, тады як на гравюрах Скарыны яны злучаны такім чынам, быццам сонца выглядае з-за месяца, асвятляючы яго сваімі праменнямі.

Чаму Скарына абраў менавіта гэты герб? Паводле ж народных вераванняў, злучэнне месяца і сонца — дрэнная прыкмета. І летапісец «Слова аб палку Ігаравым» тлумачыць няўдалы паход Ігара благім прадвесцем — зацьменнем сонца. Затое Шэдэль, гаворачы

аб нараджэнні Аляксандра Македонскага, падае такі стан сонца і месяца як добры знак.

Расшыфроўваючы значэнне гэтага герба, М. Шчакаціхін выказваў меркаванне, што Скарына адлюстраваў у ім сонечнае зацьменне, якое адбывалася над тэрыторыяй Беларусі ў 1486 г. Зыходзячы з гэтага, Шчакаціхін робіць вывад: герб сімвалізуе год нараджэння беларускага першадрукара. Магчыма, у гэтым і ёсць доля праўды, аднак галоўны сэнс герба — перамога святла над цемрай. Ва ўяўленні беларусаў сонца ўвасабляе святло, цеплыню, жыццё; месяц — цемру, ноч.

У гэтым альбоме ўпершыню поўнасцю сабраны гравюры, застаўкі, загалоўныя літары, змешчаныя ў выданнях Ф. Скарыны. Гэта дае магчымасць разглядаць, вывучаць, аналізаваць, параўноўваць адну работу з другой і рабіць найбольш правільныя высновы і заключэнні.

Вельмі цікава прасачыць, як выяўляюцца тут педагагічныя здольнасці Скарыны. Ён заўсёды шукаў новыя дапаможныя сродкі для хутчэйшага і грунтоўнага запамінання літар алфавіта. Упершыню ў Еўропе беларускі асветнік ілюструе загалоўныя літары малюнкамі жывёл, раслін, шырока вядомымі ў народзе з'явамі альбо дзеяннямі. Так, напрыклад, літара «К» ілюстравана казлянятамі, «Р» тлумачыцца царкоўнаславянскім словам «раздор». На малюнку паказана, як б'юцца коршак з савою. З сярэдзіны літары «С» выглядае леў. Тут, відаць, разумеецца царкоўнаславянскае слова «скимень» — леў або слова «смотреть» — глядзець. Каб літары запаміналіся яшчэ лепш, вялікі педагог растлумачвае адну і тую ж літару рознымі малюнкамі. Літару «Г», напрыклад, ён адзін раз ілюструе «ганзелью» (царкоўнаславянск.) — аленем, другі раз — гульнёй. На гравюры намаляваны дзеці, якія гуляюць у чахарду. Літара «В» ілюструецца вішняй, «З» — зверам, «Т» — трубамі, а разам з літарай «Л» намаляваны лён. Літары «С» адпавядае «сильный» — моцны — гэта дзіцё, якое сядзіць на спіне льва. У адной з літар «М» змешчаны вясковы музыка, а ў другой — мудрасць. У літары «Х» — лук і калчан, што, па сцвярджэнню Скарыны, азначае: «храбрость ест животъ человека на земле». У адной з гравюр да літары «Ч» намаляваны барабан. І малюнак гэты тлумачыцца такім чынам: «чествуй лекаря, для патребы убо и его сотворил ест найвышшы». У другой гравюры да літары «Ч» — чалавек падняў руку да сонца, вітаючы жыццё, сваё існаванне. Ёсць і яшчэ адна гравюра да літары «Ч». На ёй паказан месяц, а за месяцам, на чорным фоне — чалавек-сонца. Гравюра яўна сімвалічная. Хто ж гэты чалавек? Адказ можна знайсці ў наступных гравюрах.

Напрыклад, у літары «А», першай літары алфавіта, змешчаны профіль Скарыны. У «О» — «образ» — твар Скарыны ў фас, прычым буйным планам. І яшчэ раз гэты ж партрэт намаляваны ў літары «Я». Толькі тут ён ужо абрамлены сонечнымі праменнямі. Такім чынам Скарына растлумачвае, хто гэты чалавек — чалавек-сонца. Гэта, безумоўна, сам аўтар.

І, акрамя таго, ён быццам дае ключ да разгадкі сімволікі герба. Уважліва вывучаючы значэнне пералічаных ужо загалоўных літар і дадаўшы да іх яшчэ адзін варыянт літары «Я» з партрэтам Скарыны і з малюнкам месяца, становіцца зусім ясна, чый гэта герб. І невыпадкова мастак змяшчае яго на строга прадуманым месцы, выказваючы такім чынам аўтарскія адносіны да падзеі, якую ён адлюстроўвае. На аўтапартрэце герб змешчаны на абрусе, якім накрыты рабочы стол беларускага першадрукара. Такое размяшчэнне герба з'яўляецца яшчэ адным сцвярджэннем прыналежнасці герба іменна Скарыне.

Шмат меркаванняў было і наконт дзіўнага знака . Ён сустракаецца ў цыкле гравюр ілюстрацыйна-тлумачальнага характару, у некаторых застаўках Бібліі, на тэматычнай гравюры да кнігі «Левіт». Можна думаць, што гэты знак, які складаецца з лацінскіх літар «Б», «О», «Я»,— манаграма Багдана Онькава і Якуба Бабіча. Відаць, Скарына жадаў увекавечыць імёны людзей, якія прымалі актыўны ўдзел у яго высакароднай справе.

Упершыню ў гісторыі кнігадруку беларускі асветнік выкарыстоўвае кнігі Бібліі для ажыццяўлення сваёй высакароднай мэты — асветы народа, разглядаючы гэтыя выданні як энцыклапедыю чалавечых ведаў. У прадмовах да кніг ён рэкамендуе па «Псалтыры» вучыцца грамаце, па кнізе «Ісус Навін» знаёміцца з геаметрыяй, у «Малой падарожнай кніжыцы» змяшчае свецкі каляндар, дае некаторыя астранамічныя звесткі і г. д.

Каб зручней было карыстацца кнігамі, ён падбірае для іх невялікі фармат. Так, фармат кніг «Старога запавету», якія выдадзены ў Празе, роўны адной чвэрці папяровага аркуша, віленскіх выданняў «Апостала» — адной восьмай, а «Малой падарожнай кніжыцы», разлічанай на падарожнікаў,— адной дванаццатай.

Натуральна, што для невялічкіх па фармату кніг патрэбны былі і невялічкія гравюры, застаўкі, віньеткі, загалоўныя літары і шрыфт. Парушаючы ўсталяваныя каноны, Скарына першым уводзіць тытульныя лісты, прадмовы, пасляслоўі.

Велічыня тэматычных і прыкладных гравюр у асноўным — 105×105 мм. Аднак ёсць і выключэнні: «Бічаванне Іова» і «Першы суд Саламона» — 86×88 мм, аўтапартрэты — 105×160 мм, гравю-

